ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!



# ЗА ЛЕНІНСКУЮ ВУЧОБУ

ОРГАН
КУЛЬТПРОПУ
ЦККП/б/Б

ЖНІВЕНЬ—
ВЕРАСЕНЬ

№ 4—5

ДВБ 1932
ПАРТМАССЭКТАР



ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!




# ЗА ЛЕНІНСКУЮ ВУЧОБУ

ОРГАН КУЛЬТПРОПУ ЦК КП(б)Б


№ 4—5

ЖНІВЕНЬ—ВЕРАСЕНЬ 1932

ВЫХОДЗІЦЬ 2 РАЗЫ Ў МЕСЯЦ

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
ПАРТМАССЭКТАР

МЕНСК 1932







Я. Ф. Клімаў

# АБ ПАДРЫХТОЎЦЫ СЕТКІ ПАРТЫЙНАЙ АСЬВЕТЫ ДА АСЕНЬНЯ-ЗІМОВАЙ РАБОТЫ

Падрыхтоўка сеткі партасьветы да асеньня-зімовай работы павінна быць падпарадкавана выкананьню рашэньняў ліпеньскага аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б аб перабудове партыйна-масавай і выхаваўчай работы.

Выходзячы з гэтых рашэньняў, парторганізацыі павінны пабудаваць сетку партасьветы такім чынам, каб максымальна прыблізіць яе работу да паасобных груп членаў і кандыдатаў КП(б)Б, комсамольцаў, рабочых і працоўных мас. Партасьвета ў сваёй організацыйнай перабудове і штодзеннай рабоце павінна быць даведзена да самых нізавых зьвеньняў парторганізацыі, разгортвацца, выходзячы з конкрэтных умоў работы цэху, брыгады, колгасу, саўгасу.

Стала працуючай сеткай масавай партасьветы ў надыходзячы асеньня-зімовы пэрыод павінна зьявіцца:

1. Кандыдацкая школа, організуемая ў нізавых зьвеньнях парторганізацый (цэхавыя і зьменныя парт'ячэйкі, партгрупы, колгасныя і саўгасныя ячэйкі) для ахопу, якуноў прынятых у партыю, так і падрыхтоўваемых для прыёму. Кандыдацкая школа павінна зьявіцца найбольш гібкім сродкам партвыхаваўчай работы ячэек у справе ахопу шырокіх мас кандыдатаў КП(б)Б, комсамольцаў і беспартыйнага актыву. Працуючы на працягу 3 месяцаў і ахопліваючы такія пытаньні, як асноўныя законы соцыялістычнага будаўніцтва і асноўныя этапы разьвіцьця бальшавізму—кандыдацкая школа цалкам адказвае гэтым запатрабаваньням. Пры комплектаваньні кандыдацкіх школ, ячэйкам асабліва трэба ўлічыць неабходнасьць індывідуальнага падыходу пры організацыі асобных груп слухачоў, выходзячы з іх узросту, падрыхтаванасьці агульнай, вытворчых умоў.

2. Пачатковая школа ленінізму з тэрмінам навучаньня 6 месяцаў, комплектуецца з таварышоў, якія маюць падрыхтоўку ў аб'ёме кандыдацкіх школ. Школа прапрацоўвае ленінізм альбо гісторыю партыі ў аб'ёме праграмы, якая выдаецца асобным выданьнем.

3. У сельскіх ячэйках, дзе няма стала працуючых ячэйкавых пропагандыстаў, арганізуюцца школы-перасоўкі. Для кіраўніцтва імі складаюцца брыгады пропагандыстаў з раённых работнікаў (райпропагандысты, спэцыяльна выдзеленыя на гэту работу члены партыі). Школа-перасоўка працуе з большай нагрузкай і праграмай сваёй работы павінна ахапіць зьмест кандыдацкай школы і школы ленінізму.

Заняткі, ва ўсіх відах масавага партнавучаньня цалкам, падпарадкоўваюцца вытворчым умовам прадпрыемства (работа па зьменах, групах і т. д.). Неабходна ў гэтых адносінах шырока скарыстаць вопыт работы на прадпрыемствах іншых рэспублік (гл. „Пропагандыст", № 13 за 1932 г. „На путях перестройки"), аршанскага чыгуначнага вузла (прапрацоўка асобных тэм на працягу некалькіх дзён для паасобных груп чыгуначнікаў).

Заняткі ва ўсёй сыстэме партасьветы трэба праводзіць ня менш аднаго разу ў пяцідзёнку.

Аднагадовыя вячэрнія саўпартшколы рыхтуюць і перападрыхтоўваюць нізавы партыйны актыў прадпрыемстваў, саўгасаў, МТС, колгасаў (парторганізатары, сакратары ячэек і т. д.). Яны арганізуюцца пры ўсіх партыйных комітэтах, бюро партколетываў прадпрыемстваў, пры сельскіх раённых комітэтах, пры буйных саўгасах, МТС і колгасных ячэйках, пры ўмове забесьпячэньня патрэбнымі кадрамі пропагандыстаў.

Вячэрнія комвузы з 2-гадовым тэрмінам навучаньня, як вышэйшая форма масавай палітвыхаваўчай работы, арганізуюцца пры РК і ГК КП(б)Б пры ўмове забесьпячэньня комвузаў кіруючымі і выкладчыцкімі кадрамі. Яны ахопліваюць кіруючы парт-актыў раёнаў і прадпрыемстваў. У прамысловых раёнах на буйных прадпрыемствах арганізуюцца філіялы вячэрняга комвузу для рабочых з партактывам прадпрыемстваў.

Відавочна, што стала функцыянуючымі формамі партасьветы нельга ахапіць усёй арганізацыі, паасобных груп комуністаў (дзякуючы спэцыфічным умовам працы некаторых з іх), шырокіх рабочых і працоўных мас. Таму формы партыйнай асьветы па-

вінны быць самымі гібкімі і markdownрознабаковымі. Неабходна шырока скарыстаць эпізодычныя, дапаможныя да сталай сеткі, формы партыйнай вучобы: кароткатэрміновыя (15—20 дзён) курсы кандыдатаў, школы-аднадзнеўкі і ўдарныя дні вучобы, курсы конфэрэнцыі (1—3 дні), палітмасоўкі, палітбой і т. д. Эпізодычныя формы вучобы зьяўляюцца сродкам популярызацыі і мобілізацыі мас вакол выкананьня чарговых задач партыі, популярызацыі і ўкараненьня асноў марксыцска-ленінскай тэорыі. Эпізодычныя формы вучобы, як дадатковыя да пастаяннай сеткі партыйнай асьветы зьяўляюцца лепшым сродкам увязкі бальшавіцкай тэорыі з бальшавіцкай практыкай.

Апрача пастаянна функцыянуючых вячэрніх СПШ і вячэрняга комвузу для вучобы партактыву, трэба скарыстаць такія формы навучаньня, як: 1) марксыцка-ленінскія гурткі, 2) каротка тэрміновыя раённыя курсы партактыву (1½—2-месячны тэрмін навучаньня), 3) курсы, разьлічаныя на 3—5 дзён па паасобных проблемах будаўніцтва соцыялізму, гісторыі партыі і т. д. і нарэшце 4) пэрыодычныя курсы-сэмінары райпартактыву, працуючыя 1—2 разы ў месяц. Распрацоўка тэм на курсах павінна праводзіцца па заданьнях, загадзя складзеных і разданых слухачам.

Разам з гэтым неабходна шырока разгарнуць завочныя формы партнавучаньня—завочныя СПШ, завочны комвуз, завочны комсамольскі унівэрсытэт.

Посьпех у рабоце партыйных школ, патрэбная якасьць выкладаньня залежыць ад добра падабраных, стала падрыхтаваных пропагандыцкіх кадраў. РК і ГК КП(б)Б неабходна зараз-жа пераглядзець склад штатных і па-за штатных пропагандыстаў, падабраць пропагандыстаў з партктыву, замацаваць іх за школамі ня менш, чым на адзін год. Разам з організацыяй сеткі партасьветы організаваць і сетку бягучай падрыхтоўкі працуючых пропагандыстаў. Пропсэмінар, консультацыйныя пункты на буйных прадпрыемствах, вусная і пісьмовая консультацыя, нарады пропагандыстаў, сыстэматычная праверка і інструктаж работы пропагандыстаў шляхам прымацаваньня да буйнейшых школ інструктароў вучобы,—павінны зьявіцца асноўнымі формамі падрыхтоўкі прапагандыстаў. Трэба зараз-жа ўзяць курс на падрыхтоўку пропагандыстаў для кожнай ячэйкі з яе складу.

Справа партыйнай асьветы павінна быць справай усёй парторганізацыі. Неабходна дабіцца, каб кожны кіруючы работнік,

кожны партыец у сваёй рабоце выходзіў з таго, што ўзбраеньне кожнага комуніста разуменьнем асаблівасьці і задач сучаснага этапу барацьбы за соцыялізм для ўзначальваньня мас, для насьпяховага кіраўніцтва імі ў барацьбе за хутчэйшую ліквідацыю нашай тэхніка-экономічнай адсталасьці" (Постышаў)—зьяўляецца асноўным крытэрыем у выкананьні дырэктыў партыі па падрыхтоўчай рабоце.

Падрыхтоўчай работай да асеньня-зімовай партвучобы трэба дабіцца таго, каб парт'ячэйкі зразумелі, што „гэта справа ўсёй парторганізацыі, а ня толькі Культпропу і патрабуе сыстэматычнага і опэрацыйнага кіраўніцтва і праверкі выкананьня дырэктыў, якія даюцца ў гэтай галіне" (ліпеньскі пленум ЦК КП(б)Б.

Парторганізацыі павінны дабіцца сапраўднага, па-бальшавіцку пастаўленага кіраўніцтва ўсёй партвыхаваўчай работай, не падмяняючы яго папяровым, бюрократычным кіраўніцтвам.

Цэнтральны і раённы друк, уся сыстэма фабрычна-заводзкага, саўгаснага і колгаснага друку павінна зараз-жа разгарнуць барацьбу за пасьпяховае разгортваньне партвыхаваўчай работы, концэнтруючы ўвагу парторганізацый навакол такіх вузлавых пытаньняў, як перабудова ўсёй сыстэмы партвыхаваўчай работы, перанясеньне цэнтру ўвагі ў цэхавыя, саўгасныя і колгасныя ячэйкі; забесьпячэньне сеткі партасьветы падрыхтаванымі, вытрыманымі пропагандыстамі, барацьба за якасьць выкладаньня, вытрыманасьць марсысцка-ленінскай пропаганды.

Райкомам і гаркомам КП(б)Б неабходна зараз-жа заняцца пытаньнямі становішча політвыхаваўчай работы ў КСМ, асабліва сярод навічкоў, рабочай масы і працоўнай моладзі.

Асноўнымі формамі політвыхаваўчай работы ў КСМ павінна зьявіцца пачатковая політшкола, для новых папаўненьняў, для няпісьменных політычна комсамольцаў; гурткі комсамольскага актыву па асобных тэмах, проблемах, па асобных дысцыплінах марксысцка-ленінскай тэорыі. Частка комсамольскага актыву павінна быць ахоплена школамі і гурткамі сеткі партасьветы.

Мы можам толькі тады выканаць з посьпехам дырэктывы ліпеньскага пленуму, калі партасьвету—гэты асноўны складаны элемэнт усёй партвыхаваўчай работы—пабудуем у залежнасьці ад патрабаваньняў паасобных груп слухачоў, выходзячы з іх узросту, падрыхтаванасьці, вытворча-бытавых умоў, калі не комуністаў, рабочых і працоўныя масы будзем прыстасоўваць

да пабудаванай намі сеткі партасьветы, а, наадварот, апошнюю будзем прыстасоўваць да патрабаваньняў слухачоў.

Максымальная гібкасьць і опэратыўнасьць ў разгортваньні і кіраўніцтве партыйнай вучобай, падняцьцё якасьці гэтай вучобы, неадрыўная сувязь яе з чарговымі задачамі будаўніцтва соцыялізму—чарговы лёзунг партыйных організацый у галіне партыйна-выхаваўчай работы.

---

К. Я.

# АДДЗЕЛ ОРГАНІЗАЦЫІ І МЭТОДЫКІ ПАРТАСЬВЕТЫ

## 1. ДА ВЫНІКАЎ І ЧАРГОВЫХ ЗАДАЧ У РАБОЦЕ ПРОПГРУП ЦК КП(б)Б

Пропгрупы ў КП(б)Б працуюць невялікі тэрмін. Організацыя іх выклікана неабходнасьцю найбольш поўнага ахопу культроп-работай рабочых і працоўных мас, найбольш поўнага ахопу ўзрастаючай палітычнай актыўнасьці іх, як выніку посьпехаў соцыялістычнага будаўніцтва. Перад пропгрупамі былі пастаўлены задачы: 1) дапамагчы парторганізацыям у разгортваньні марксысцка-ленінскага выхаваньня, асабліва сярод маладых членаў і кандыдатаў КП(б)Б; 2) дапамагчы парторганізацыям у справе падрыхтоўкі партыйных кадраў для нізавых зьвеньняў парт-работы; 3) організаваць работу па сыстэматычным павышэньні марксысцка-ленінскага ўзроўню працуючага партактыву; 4) дапамагчы парторганізацыям у справе давядзеньня да шырокіх рабочых і працоўных мас асноўных рашэньняў партыі.

Задачы гэтыя, чотка выражаныя ў палажэньні аб партгрупах ЦК КП(б)Б, указваюць, што апошнія ў сваёй штодзеннай рабоце павінны дабівацца пасьпяховага выкананьня дырэктывы партыі аб сыстэматычным павышэньні ідэйна-палітычнага ўзроўню парт-організацый, штодзеннай работай дабіваючыся „выкоўваньня стойкіх бальшавікоў, здольных орыентавацца ў сучаснай абстаноўцы соцыялістычнага будаўніцтва, усвоіўшых багатае гістарычнае мінулае нашай партыі, усвоіўшых вопыт барацьбы партыі на два фронты, уясьніўшых сабе сувязь нашага соцбудаўніцтва з барацьбой сусьветнага пролетарыяту, здольных у новых умовах узначаліць і павесьці за сабой масы на барацьбу“ (Постышаў).

Пропгрупы распачалі сваю работу напярэдадні веснавой сяўбы (сакавік месяц). Падрыхтоўка да сяўбы—разьмеркаваньне сіл і сродкаў для пасьпяховага выкананьня пляну веснавой сельска-гаспадарчай кампаніі, вызначалі зьмест і формы практычнай

дзейнасьці парторганізацый. Таму пропгрупы павінны былі формы і мэтоды работы па выкананьні задач, пастаўленых перад імі ЦК КП(б)Б, падпарадкаваць умовам практычнай работы парторганізацый—прыстасаваць іх да вытворчых умоў раёну, выцякаючых з задач па веснавой кампаніі.

Пропгрупы ЦК разам з райкомамі КП(б)Б павінны былі, у адпаведнасьці з асноўнымі задачамі парторганізацый, распрацаваць ня толькі формы і мэтоды работы, але ў значнай ступені вызначыць і зьмест яе, які-б адказваў дырэктывам партыі па бягучых гаспадарча-палітычных кампаніях, як пасеўкампанія, уборачная і інш.

* * *

Праведзеная ў пачатку жніўня нарада пропгрупы ЦК паказала, што апошнія ўказаных вышэй умоў, якія забясьпечваюць пасьпяховае вырашэньне задач, пастаўленых ЦК КП(б)Б—ня ўлічылі. Пропгрупы свае плянавыя меркаваньні складалі ў значнай ступені, не орыентуючыся на ўмовы практычнай работы парторганізацый. Яны проста дырэктывы, дадзеныя з ЦК, мэханічна пераносілі ў свае пляны і праводзілі па іх сваю работу. Райкомы з свайго боку не пастараліся ўнесьці патрэбных корэктыў у пляны пропгруп, а, наадварот, некаторыя з іх заняліся зусім іншай справай—разьмеркаваньнем членаў пропгруп на сталую работу: заг. хатчыталень, сакратарамі ячэек, а некаторых проста штатнымі ўпаўнаважанымі па кампаніях.

А вынікі?.. Пропгрупы ў значнай ступені ня выклікалі сваіх плянавых меркаваньняў па падрыхтоўцы кадраў, разгортваньні масавай партвыхаваўчай работы і т. д. Ім у процэсе работы прышлося значна корэктаваць свае пляны і адначасова высоўваць новыя формы і мэтоды работы, у парадку самацёку. Такім чынам пропгрупы на нараду прышлі з зусім іншымі вынікамі як па зьмесьце, так і па формах работы, у параўнаньні з тым, што намячалі ў пачатку сваёй работы.

Аналізуючы вынікі работы пропгруп, можна ўстанавіць, што цэнтральнае месца ў іх рабоце займалі 1—1½-месячныя курсы па партячэйках, падобныя па форме і па зьмесьце работы да школы-перасоўкі. Гэта адна з форм, на якой спыніліся пропгрупы, іншых форм партасьветы яны не разгарнулі. Членны пропгрупы разьмяркоўваліся па ячэйках і там працавалі ў асобным

над папулярызацыяй чарговых рашэньняў партыі. Справа, вядома, удзячная. Але бяда ўся ў тым, што пропгрупы такім чынам аказаліся ізоляванымі ад усёй астатняй часткі парторганізацыі і абмежаваліся ў сваёй рабоце якімі-небудзь 2—3 ячэйкамі.

У выніку атрымалася, што разгортваньне масавай партвыхаваўчай работы пропгрупы зьвялі да ахопу некалькіх дзесяткаў чалавек членаў і кандыдатаў партыі, комсамольцаў і беспартыйнага актыву, і гэта ў той час, калі трэба было ахапіць сотні чалавек.

Задача ахопу марксысцка-ленінскім выхаваньнем парторганізацый цалкам, як бачым, была выканана нездавальняюча. Яўна нездавальняючыя вынікі ў гэтай галіне работы атрымаліся дзякуючы таму, што ня былі скарыстаны больш гібкія формы партвучобы, якія-б больш адказвалі ўмовам правядзеньня веснавой кампаніі. Пропгрупа не мобілізавала парторганізацыю на правядзеньне гэтай работы, паасобных яе (парторганізацыі) членаў на непасрэдны ўдзел у гэтай рабоце пры дапамозе пропгрупы.

Кожнаму вядома, што дапамагчы парторганізацыям у разгортваньні масавай партвыхаваўчай работы, гэта ня значыць абмежавацца ў гэтай рабоце толькі сіламі пропгруп (што ў асноўным і рабілі пропгрупы). Гэта значыць—мобілізаваць усю парторганізацыю на гэтую работу, арганізаваць вакол пропгрупы людзей, здольных непасрэдна праводзіць работу ў сетцы партасьветы, падрыхтаваць іх на прапрацоўку конкрэтных пытаньняў у сыстэме партасьветы, узяцца самой (пропгрупе) за работу ў 1—2 ячэйках і на практыцы работы ў гэтай ячэйцы паказаць усёй парторганізацыі, як трэба праводзіць партвыхаваўчую работу масавым парадкам, не дапускаючы ніякіх разважаньняў аб „об'ектыўных прычынах".

Работу, нарэшце, трэба было арганізаваць не адрываючы работнікаў ад падрыхтоўчай дзейнасьці да веснавой сяўбы, скарыстаць на пропрабоце кожнага ўпаўнаважанага РК, выяжджаючага ў ячэйку, колгас, саўгас. Трэба было шырока скарыстаць такія формы і мэтоды работы, як ударныя дні вучобы, школы-аднадзенкі, палітмасаўкі, кароткатэрміновыя (10—15 дзён) кандыдацкія школы па асноўных пытаньнях соцбудаўніцтва і партыі, кароткатэрміновыя (3—5 дзён) па ячэйках курсы-нарады і т. д.

Засеўшы па ячэйках на 1—1½ месяцы, пропгрупы бязумоўна нічога не змаглі зрабіць, не гаворачы ўжо аб тым, што працуючыя ў раёне пропагандысты ня мелі ад пропгруп ніякай дапамогі.

* * *

Аналёгічныя вынікі, дзякуючы тым-жа, указаным вышэй прычынам, можна наглядаць і па другой адказьнейшай галіне работы пропгруп—падрыхтоўцы кадраў.

Тав. Постышаў у сваёй прамове да пляну оргбюро ЦК УсеКП(б) (1931 г., журнал „Партбудаўніцтва“ № 5), гаворачы аб падрыхтоўцы кадраў для вёскі, падкрэсьлівае, што „трэба ў першую чаргу падняць на больш высокі ўзровень палітычную пісьменнасьць актыву і тым самым павысіць яго баяздольнасьць“.

Гэты вучастак работы—вучоба вясковага партактыву—трэба сказаць, зусім вышаў з поля дзейнасьці пропгруп, якія працавалі ў сельскіх раёнах. Яны не займаліся пытаньнем павышэньня марксысцка-ленінскага ўзроўню працуючага партактыву. Далёка нездавальняюча абстаіць справа з падрыхтоўкай маладых партыйных кадраў. Такія кадры, як партработнікі ў ячэйках колгасаў, МТС, саўгасаў, работнікі сельсаветаў і іншых галін партыйнай палітмасавай і гаспадарчай работы—зусім ня былі прадугледжаны ў плянах работы пропгруп. І гэта ў той час, калі частка работнікаў пропгруп займалася на склікаемых рознымі організацыямі раёну курсах, нават некаторыя работнікі пропгруп (Старобін) прабавалі выкладаць на пэдкурсах і т. д.

Указаньне т. Постышава аб тым, што кадры, якія прайшлі жорсткую школу клясавай барацьбы, „трэба навучыць і сьмялей высоўваць на кіруючую сельскую і раённую работу“—ня было пакладзена пропгрупамі ў аснову сваёй работы.

У справе падрыхтоўкі кадраў пропгрупы, правільна паставіўшы пытаньне аб падрыхтоўцы ў першую чаргу прапагандыстаў, таму, што толькі вырашыўшы проблему пропкадраў можна больш шпарка разгортваць работу падрыхтоўкі кадраў па іншых галінах работы, вырашылі гэтую задачу нездавальняюча. Трэба констатаваць, што раёны пропкадрамі поўнасьцю не забясьпечаны. Такія вынікі тлумачацца тым, што пропгрупы ніякіх іншых форм работы па падрыхтоўцы пропкадраў апрача толькі 1—1½ месячных раённых курсаў не скарыстоўвалі.

Райкомы КП(б)Б, згадзіўшыся прынцыпова на неабходнасьць склікаyньня курсаў, адцягвалі гэта мерапрыемства па вельмі зразумелых прычынах: яны не маглі ў разгар сяўбы зьняць з практычнай работы на райкурсы лепшых партыйцаў організацыі. У выніку курсы, дзе яны і былі склікаоы, ня далі патрэбных вынікаў, таму

што на курсах былі маладыя члены і кандыдаты КП(б)Б, не надрыхтаваныя, у паасобных выпадках проста няпісьменныя.

Для пасьпяховага вырашэньня задачы па падрыхтоўцы пропкадраў трэба было, выявіўшы фактычную патрэбнасьць па ячэйках, на месцы выдзяліць таварышоў, якія павінны былі астацца ячэйкавымі пропагандыстамі і потым комбінаваным мэтодам—каротка-тэрміновыя ўстановачныя на працягу 2—3 дзён курсы-нарады, для прапрацоўкі выдзеленых у пляне тэм, індывідуальныя заданьні, вусныя і пісьмовыя консультацыі, пропсэмінарыі па ячэйках і невялікіх кустах,—работы падрыхтаваць іх для пропагандыцкай работы. Усе гэтыя эпізодычныя формы вучобы пропкадраў павінны былі падрыхтаваць нарэшце 2-месячныя курсы пропагандыстаў для парт. і комсамольскіх ячэек, якія і правесьці ў часе міжпар'я (чэрвень—ліпень месяцы).

Трэба адзначыць, што райкомы не праявілі патрэбнай ініцыятывы ў справе, як падрыхтоўкі кадраў пропагандыстаў, так і разам з пропгрупамі, не займаліся пытаньнем плянавай падрыхтоўкі кадраў па іншых галінах партыйна-масавай і гаспадарчай работы. Пануючае ў гэтай галіне саматужніцтва значна адбілася на пасьпяховасьці выкананьня дырэктыў па падрыхтоўцы кадраў раёнам.

Далейшая работа пропгруп у галіне падрыхтоўкі кадраў павінна зводзіцца да таго, каб, ставячы і надалей цэнтральнай задачу падрыхтоўкі пропагандыстаў для нізавых зьвеньняў парторганізацый, плянава рыхтаваць асобныя групы партактыву, выходзячы з патрэбнасьці кожнай у паасобку ячэйкі. Гэта патрабуе ў сваю чаргу сталага вывучэньня гэтага пытаньня па асобных ячэйках, па паасобных галінах партработы. У цэнтр усёй работы па падрыхтоўцы кадраў трэба паставіць задачу павышэньня палітычнай бояздольнасьці працуючага партактыву. Работу трэба організаваць навокал вывучэньня асноўных проблем соцбудаўніцтва, асноўных этапаў у разьвіцьці бальшавізму і т. д.

У дапамогу да курсавых мераапрыемстваў трэба прыцягнуць такія формы падрыхтоўкі партактыву, як ВСПШ, завочная сыстэма партнавучаньня, марксысцка-ленінскія гурткі і т. д. Пропгрупа павінна дабіцца такіх вынікаў работы, якія забясьпечылі-б райпарторганізацыі патрэбнымі кадрамі—падрыхтаванымі і здольнымі змагацца за пасьпяховае, пераможнае соцбудаўніцтва вёскі.

*
* *

Некалькі слоў аб рабоце пропгруп на Аршанскім чыгуначным вузьле і на зав. „Асінторф".

Пропгрупа, якая працавала на Аршанскім чыгуначным вузьле, ня мела ў сваёй рабоце вышэй указаных недахопаў. Усю сваю работу яна будавала сурова ўлічваючы вытворчыя ўмовы транспорту.

Вынікі работы пропгрупы, трэба сказаць, больш чым здавальняючыя. Пропгрупа змагла на вопыце работы школ паравозьнікаў і кандуктарскіх брыгад даказаць некаторым парторганізацыям вузла, што об'ектыўных умоў, якія-б тармазілі партвучобу—няма. Ёсьць толькі нежаданьне праводзіць гэтую работу. Кіруючы 2—3 школамі, пропгрупа організавала масавую партасьвету на вузьле праз сыстэматычны інструктаж ячэек і пропагандыстаў па гэтым пытаньні.

Падрыхтоўку кадраў пропгрупы ўвязалі з задачамі разгортваньня партмасавай работы на вузьле, забясьпечыўшы праз курсавую сыстэму (з адрывам ад вытворчасьці і бяз адрыву ад вытворчасьці) асноўныя вучасткі партработы, комсамольскай і профэсіянальнай работы вузла.

Адваротнае мы бачым на зав. „Асінторф“: тут партгрупа не зразумела сваіх задач, таму яе работа мела зусім іншыя рэзультаты, чым работа чыгуначнай пропгрупы.

Перад пропгрупай стаяла асноўная задача—разгарнуць палітвыхаваўчую работу сярод рабочых заводу, мобілізаваць іх на пасьпяховае выкананьне прамфінпляну. Гэта задача стаяла раней, стаіць і цяпер. Выкананьне яе трэба было організаваць шляхам мобілізацыі партыйцаў, комсамольцаў і беспартыйнага актыву на шырокую агітмасавую работу па брыгадах, казармах і т. д. Трэба было інструкцыйным парадкам праз курсы-нарады рыхтаваць агітатараў, чытачоў і т. д. для брыгад тарфянікаў. Сілы трэба было расставіць па заводзе і разам з парткомам сачыць за выкананьнем даваемых на гэтай рабоце дырэктыў партыі. Самім членам пропгрупы паказаць прыклад правядзеньня палітмасовак у брыгадах, палітгутарак па групах, казармах, палітчытак і т. д. Гэтага пропгрупа не зрабіла ў тэй ступені, як патрабавалася. Яна абмежавалася работай у 2—3 партшколах, аб'ядноючых адзінкі комуністаў, комсамольцаў—і ўсё—яўна нездавальняючыя вынікі. Партком заводу відаць, сам не асабліва разьлічваў на вынікі палітвыхаваўчай работы і ў паасобных выпадках проста не дапамагаў пропгрупе, не кіраваў яе работай у напрамку забясьпечваючага выкананьня дырэктыў. Пропгрупе і парткому заводу трэба, улічыўшы ўказаныя недахопы, організаваць у пер-

шую чаргу масавую палітвыхаваўчую работу, арганізуючы праз яе таксама і сыстэматычны рост парторганізацыі заводу.

* * *

Прайшоўшы пэрыод работы пропгруп ЦК КП(б)Б—гэта першы вопыт іх работы. Недахопаў, яўных прарываў у рабоце пропгруп бязумоўна ёсьць шмат. Але ня гледзячы на ўсе гэтыя недахопы трэба канстатаваць, што пропгрупы, як форма культпропработы, сябе бясспрэчна апраўдваюць.

Пропгрупы, абмяняўшыся вопытам сваёй работы, улічыўшы станоўчыя і адмоўныя бакі пасьля нарады, бязумоўна возьмуцца з падвоенай энэргіяй за выкананьне дырэктыў, пастаўленых перад імі ЦК КП(б)Б.

Абмен вопытам работы, соцыялістычныя мэтоды работы—соцспаборніцтва паміж групамі, ударніцтва ўнутры іх—забясьпечаць пасьпяховае вырашэньне асобных задач, па якіх у першы этап работы мы нарабілі шмат памылак.

Павышаючы тэорэтычны ўзровень работнікаў пропгруп, умовы для гэтага як з боку Культпропу ЦК, так і асобных райкомаў, дзе працуюць пропгрупы—павінны быць складзены, трэба забясьпечыць патрэбную якасьць у культпропрабоце, якая праводзіцца пропгрупамі.

*Аддзел програм і мэтодраспрацовак*

## 2. НАВУЧАЛЬНЫ ПЛЯН ВЯЧЭРНЯЙ АДНАГАДОВАЙ САЎПАРТШКОЛЫ НА 1932—33 год.

| №№ па чар. | Назва дысцыплін | Колькі гадзін |
|---|---|---|
| | Паніжаны варыянт | |
| 1 | Беларуская мова . . . . . . . | 24 |
| 2 | Матэматыка . . . . . . . . | 24 |
| 3 | Гісторыя партыі . . . . . . . | 100 |
| 4 | Асноўныя пытаньні будаўніцтва соцыялізму ў СССР . . . . . . | 60 |
| 5 | Партыйнае будаўніцтва (арганізацыйна-партыйная, масавая і палітвыхаваўчая работа партыі) . . . | 40 |
| 6 | Эконом географія (з картай) . . . | 40 |
| | Усяго . . . . . . | 288 |
| | Павышаны варыянт | |
| 1 | Беларуская мова . . . . . . . | 30 |
| 2 | Матэматыка . . . . . . . . | 30 |
| 3 | Ленінізм . . . . . . . . . | 100 |

| №№ па чар. | Назва дысцыплін | Колькі гадзін |
|---|---|---|
| 4 | Гісторыя клясавай барацьбы . . . | 80 |
| 5 | Асновы політэкономії ў сувязі з тэорыяй савецкай гаспадаркі . . | 100 |
| 6 | Партыйнае будаўніцтва (організацыйна-партыйная, масавая і політвыхаваўчая работа партыі) . . . | 44 |
| | Усяго . . . . . | 384 |

## Тлумачальная запіска

„Узросшая складанасьць і адказнасьць задач, якія стаяць перад партыяй у цэлым і кожнай нізавой партыйнай ячэйкай у даны пэрыод, патрабуюць неадкладнай, карэннай перабудовы і рашучага ўмацаваньня партыйна-організацыйнай, масавай і політвыхаваўчай работы партыі ў адпаведнасьці з указаньнямі т. Сталіна“ (з пастаноў ліпеньскага пленуму ЦК КП(б)Б).

Пленум падкрэсьліў неабходнасьць забесьпячэньня актыўнага, інтэнсыўнага партыйнага жыцьця кожнай парт'ячэйкі, партгрупы, кожнага члена і кандыдата партыі ў паасобку, павышэньня ідэйна-політычнага ўзроўню і ідэолёгічнай згуртаванасьці партоорганізацыі.

„Неабходна дабіцца таго, — гаворыць пастанова ліпеньскага пленуму,—каб комуніст быў ня толькі ўзорам ударнай вытворчай работы, але і політычным правадыром і організатарам мас“.

Вячэрняя аднагадовая саўпартшкола павінна зьявіцца першым дапаможнікам партыйнаму актыву ў сапраўды бальшавіцкім разгортваньні організацыйна-партыйнай, масавай і політвыхаваўчай работы партыі. Вучэбны плян школы і пабудаваны такім чынам, каб даючы асновы рэволюцыйнай тэорыі ў яе непарыўнай сувязі і адзінстве з практыкай соцыялістычнага будаўніцтва, выхоўваць сапраўды адпавядаючага сваім задачам нізавога партыйнага работніка, які-б у сваёй штодзеннай конкрэтнай рабоце ўмеў выходзіць з усёй шырыні задач будаўніцтва соцыялізму і асноў бальшавіцкай тэорыі.

Асноўным прынцыпам вучэбнага пляну школы зьяўляецца пранізваньне вывучаемых прадметаў сучаснымі задачамі партыі

і рабочай клясы, максымальная і неад'емная сувязь з партыйнай работай на даным прадпрыемстве, саўгасе, колгасе.

Школа павінна быць ня прывескам да агульнай партыйнай работы, а важнейшым і неадрыўным вучасткам гэтай работы. Усе вывучаемыя прадметы, якія павінны распрацоўвацца ў самай шчыльнай сувязі з сучаснымі задачамі партыі, у прыватнасьці такі прадмет, як „асноўныя пытаньні будаўніцтва социялізму ў СССР“ павінны зьяўляцца тэорэтычнай зброяй для кожнага слухача школы ў перабудове і разгортваньні партыйнай работы на прадпрыемстве.

Вучэбны плян работы даецца ў двух варыянтах: павышаны і паніжаны. Асноўным тыпам ВСПШ павінна быць аднагадовая. Там, дзе будуць арганізаваны двухгадовыя ВСПШ, то паніжаны варыянт вучэбнага пляну будзе складаць першы год навучаньня, а павышаны варыянт—другі год навучаньня.

Вучэбны плян паніжанага варыянта разьлічан на 8 м-цаў—3 раза ў дэкаду па 4 газ.—288 г.

Павышаны варыянт разьлічан на 8 м-цаў—4 разы ў дэкаду па 4 гадз.—384 г.

Парадак прапрацоўкі прадметаў прапрануецца наступны: пачаць вучобу з гісторыі бальшавізму, белмовы і матэматыкі. Па сканчэньні гісторыі бальшавізму перайсьці да распрацоўкі асноўных пытаньняў будаўніцтва социялізму ў СССР і інш.

Прапрацоўка паказаных у вучэбным пляне дысцыплін павінна праводзіцца з максымальным прыцягненьнем матэрыялаў свайго раёну, прадпрыемства, саўгаса, колгаса. Агульна-адукацыйныя прадметы пастаўлены ў самым пачатку курсу з тым, каб даць слухачам школы пэўны мінімум ведаў, без якіх немагчыма колькінебудзь сур'ёзная работа над кнігай, на прадпрыемстве, у цаху, у брыгадзе. Програма іх іменна так і пабудована, каб палегчыць як прапрацоўку тэорэтычнага матэрыялу, так і практычную работу.

Курс партыйнай работы павінен зьявіцца адным з самых асноўных у школе. Кіраўнік павінен самым дасканалым чынам ведаць прадпрыемства, саўгас, колгас, становішча партыйнай работы ў іх і якую работу выконвае кожны слухач у паасобку. Група ў цэлым абгаварвае пытаньне аб самім удзеле ў перабудове партыйна-масавай работы. Перад кожным слухачом ставяцца пэўныя конкрэтныя задачы. Заняткі зьяўляюцца як-бы своеасаблівай паглыбленай конфэрэнцыяй, дзе побач з такімі мэтодамі, як лекцыя кіраўніка, самастойная прапрацоўка матэрыялу слуха-

чамі, прымяняюцца: справаздачы слухачоў аб іх рабоце і выкананьні заданьняў, спрэчкі па справаздачах, выступленьне сакратара, культпропу і іншых работнікаў бюро ячэйкі і т. д.

Работнікі бюро ячэйкі або колектыву могуць прыцягвацца кіраўнікам школы да распрацоўкі пэўных тэм, зьвязаных з партработай данага прадпрыемства.

У залежнасьці ад мэтавай установкі ВСПШ з слухачоў арганізуюцца сэкцыі для прапрацоўкі практычных пытаньняў партбудаўніцтва. У школе магчыма быць організована ад 2-х да 5-ці сэкцый з тым, каб у кожнай было ня менш 15—50 чал. (сэкцыя рабочых пропрагандыстаў, цэхавых оргпартработнікаў—групоргі, зьеноргі, сакратары, сэкцыя комсамольскіх работнікаў, профработнікаў і г. д.). Для чаго слухачы перагрупіроўваюцца ў залежнасьці з выбіраемай імі галіной работы.

У якасьці літаратуры для ВСПШ рэкомэндуецца максымальна скарыстаць першакрыніцы Маркса, Леніна, Сталіна, дакуманты партыі. Па гісторыі партыі для менш падрыхтаваных скарыстаць падручнік Попова XV выданьне. Прыдаючы вялізарнае значэньне ВСПШ як аднэй з масавых форм падрыхтоўкі актыву, прапануецца не дапускаць зьніжэньня якасьці работы школ і зьніжэньня яе ролі ў сыстэме марксысцка-ленінскага выхаваньня; комплектаваньне ВСПШ правесьці за кошт ячэйкавага партыйна-комсамольскага, профсаюзнага, савецкага і колгаснага актыву. Па сканчэньні работы ВСПШ рэкамэндуецца слухачам выдаваць пасьведчаньні аб сканчэньні школы.

*Програмнамэтодычнае Бюро Культпропу ЦК КП(б)Б.*

---

## ЛІТАРАТУРА ДЛЯ СЛУХАЧОУ

кандыдацкай партыйнай школы па першай тэме праграмы: Інгулаў „Два міра—дзьве сыстэмы“

## ЛІТАРАТУРА ДЛЯ КІРАЎНІКОЎ

### I. Два міра—дзьве сыстэмы. Капіталізм і соцыялізм.

Маркс, „Капітал“, т. I, адлз. XXIV, разьдзел I, III, VII.

" „Наемный труд и капитал“.

" „Заработная плата, цена и прибыль“.

Маркс и Энгельс, „Комуністычны маніфэст“, раз. I, стар. 6.

Энгельс, „Анти-Дюрынг“, аддз. III, разьдзел II, стар. 20.

Ленін, Три источника и три составные части марксизма“.

Ленін, „Карл Маркс“ (параграф аб эковомічным вучэньні).

Ленін, „Программа Коминтерна“, аддзел 1, § I.

Ленін, „Программа ВКП(б)“—(Уводная частка).

Ленін, „Империализм, как новейший этап капитализма“.

Ленін, „Доклад на II конгрессе Коминтерна“, т. XXV, стар. 281—346, выд. 2-е і 3-е.

Сталін,“ Отчет на XVI с‘езде, раз. I. „Вопросы ленинизма“, разд. „Основные проблемы VI конгрэссу Коминтерна“, стар. 409—413, выд. 1931 г.

Рэзолюцыі VI конгрэсу Комінтэрну.

Рэзолюцыі XI пленуму ІККІ.

Мануільскі, „Доклад на XI пленуме ИККИ, журнал „Коммунистический интернационал“, № 9 і 10 (артыкулы, прысьвечаныя XI пленуму ІККІ) і № 1—2 за 1931 г.

Молатаў і Куйбышаў, „Даклады на XVII партконфэрэнцыі“.

Выступленьне т. Молатава на IX зьезьдзе профсаюзаў.

Лазоўскі, „Даклад на IX зьезьдзе профсаюзаў“.

Бягучыя нумары „Праўды“ матэрыялы аб міжнародным і ўнутраным становішчы СССР.

### II. Да комунізму—праз дыктатуру пролетарыята.

Літаратура па 2-й тэме для слухачоў: Волін, падручнік для кандыдацкіх школ (знаходзіцца ў друку).

Літаратура для кіраўнікоў.

Ленін, „О лозунге соединенных Штатов Европы“, т. XVIII, выд. 2-е і 3-е.

„Программа Коминтерна“, разд. I, § 2, 3 і 4, разд. IV, § 8 і 9.

Сталін, „Об основах ленинизма“. „Исторические корни ленинизма“, падр. III § 3 „Теория пролетарской революции“.

Сталін, „К вопросам ленинизма“, падр. VI „Вопрос о победе социализма в одной стране“.

Сталін, „Об социал-демократическом уклоне в нашей партии“, разд. „О неровномерном развитии капиталистических стран“.

Сборник „Организованный капитализм“—Дыскусія ў Комакадэміі ў 1930 годзе.

Ленін, „Государство и революция“, падр. I, § 1—3, падр. II, III, V і VI. Твор. выд. 1-е, т. XIV, ч. 2-я, стар. 299—308, 314—342, 357—395.

Ленін, „Пролетарская революция и ренегат Каутский“, т. XV, выд. 1-е, стар. 447—470.

Ленін, „Задачи пролетариата в нашей революции, т. XIV, выд. І-е, стар. 37—38.

Ленін, „Экономика и политика в эпоху диктатуры пролетариата“, т. XVI, выд. І-е, стар. 347—356.

Ленін, „Детская болезнь „левизны“ в коммунизме“, т. XVII, выд. І-е, стар. 117—118, 135—136.

Ленін, „Тезисы и доклад о буржуазной демократии и диктатура пролетариата“, т. XVI.

Ленін, „Рабочая партия и крестьянство“, т. IX, выд. 1-е, стар. 263—269.

„Тезисы об очередных задачах II конгресса Коминтерна“, т. XVII.

„Тезисы о крестьянском вопросе“.

Зборнік „Коминтерн в резолюциях“.

„Программа Коминтерна“, падр. IV, § 1, 2, 3, 4, 5, 6.

Сталін, „Об основах ленинизма“. падр. IV, V.

Сталін, „К вопросам ленинизма“. падр. IV. „Пролетарская революция и диктатура пролетариата“, падр.V. „Партия и рабочий класс в системе диктатуры пролетариата“, падр. VII. „Борьба за победу социалистического строительства“.

Сталін, „Вопросы ленинизма“. „К вопросу о рабоче-крестьянском правительстве“, „Вопросы и ответы“, падр. I і V. Об трох основных лозунгах по крестьянскому вопросу. „К вопросу о политике ликвидации кулачества как класса“.

Сталін, „О социал-демократическом уклоне в нашай партии“. „Заключительное слово на XV партконференции“: I. О некоторых общих вопросах“, „Марксизм не догма, а руководство к делу“.

Сталін, „О правом уклоне в ВКП(б)“, падр. III, § а і б) „О классовой борьбе“, „Об обострении классовой борьбы“ і в) „О крестьянстве“.

Сталін, „Октябрьская революция и тактика русских коммунистов“, падр. IV.

Рэзолюцыя VI усесаюзнага зьезду Саветаў па дакладзе т. Якаўлева.

Стэцкі. „Речь на XVII партконференции“.

## III. Комуністычная партыя—перадавы атрад рабочай клясы

Літаратура для слухачоў: Волгін і мэтодраспрацоўка культпропа ЦК КП(б)Б

Літаратура для кіраўнікоў.

Маркс і Энгельс, „Коммунистический манифест“, падр. II, III і IV.

Ленін, „Детская болезнь „левизны“ в коммунізме“, т. XVII, падр. I—VIII, выд. І-е.

Ленін, „Письмо к товарищу“, сбор., т. V, выд 2-е.

Ленін, „Что делать“, падр. I і II, твор, т. V, выд. 2-е.

Ленін, „Тезисы об основных задачах II конгрессу Коминтерна“, т. XVII, стар. 229—244.

Ленін, „Доклад, заключительное слово и резолюция по вопросу единства партии і анархо-синдикалистском уклоне", твор. т. XVIII, ч. I, стар. 155—172.

Сталін, „Об основах ленинизма", падр. VII. „Стратегия и тактика", падр. VIII. „Партия", падр. IX, „Стиль в работе".

Сталін, „К вопросам ленинизма", падр. V—„Партия в системе диктатуры пролетариата".

Сталін, „Об индустриализации страны и об правом уклоне в ВКП(б)", падр. III, стар. 461—471. Зборнік. „Вопросы ленинизма", выд. 1931 г.

Сталін, „З доклада на XVI с'езде партии", раздел „Вопросы руководства внутрипартийными делами", стар. 689—696 (з заключительного слова)", стар. 710—716.

Сталін, „О некоторых вопросах истории большевизма".

Тэзісы, „Аб ролі комуністычнай партыі ў пролетарскай рэволюцыі, прынятыя II кангресам Комінтэрну". Зб. Бэла-Куна „Коминтерн в резолюциях", стар. 38—49.

Сталін, „Аб бальшавізацыі компартый, прынятыя VI пленумам ІККІ" (гл. там-жа, стар. 209—242).

Рэзолюцыя XV парткснфэрэнцыі па дакладзе т. Сталіна аб соцыял-дэмократычным ухіле ў нашай партыі.

Статут УсеКП(б).

Л. Кагановіч, „Речь на пленуме МГК, „Правда", ад 7/V 1932 г.

Гікала,—Даклад на нарадзе парторгаў.

Жаброўскі,—Даклад на ліпеньскім пленуме ЦК і ЦКК КП(б)Б і рэзолюцыя па дакладзе.

Шаранговіч,—Даклад аб выніках ліпеньскага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б.

## 2. ТЭМА: КОМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ—ПЕРАДАВЫ АВАНГАРД РАБОЧАЙ КЛЯСЫ

### Плян заняткаў

Рабочая кляса—самая рэволюцыйная, перадавая кляса сучаснага грамадзтва. Гістарычная роля рабочай клясы. Наяўнасьць баявой партыі, узброенай марксысцка-ленінскай тэорыяй, як асноўная ўмова выкананьня рабочай клясай сваёй ролі.

Існаваньне бальшавіцкай партыі як асноўная ўмова сусьветна-гістарычных перамог, дасягнутых рабочай клясай СССР у справе будаўніцтва соцыялізму.

Вучэньне Леніна—Сталіна аб партыі як авангардзе пролетарыяту.

1. Партыя як перадавы атрад рабочай клясы. „Партыя павінна ўцягнуць у сябе ўсе лепшыя элемэнты рабочай клясы, іх вопыт, іх рэволюцыйнасьць, іх шчырую адданасьць справе і пролетарыяту".

Роля і значэньне рэволюцыйнай тэорыі і яе ўвязка з практыкай рэволюцыйнага руху.

„Тэорыя становіцца беспрадметнай, калі яна не зьвязваецца з рэволюцыйнай практыкай, таксама як і практыка становіцца сьляпой, калі яна не асьвятляе сабе дарогу рэволюцыйнай тэорыяй“.

Партыя—палітычны правадыр рабочай клясы.

„Партыя павінна стаяць наперадзе рабочай клясы, яна павінна бачыць далей рабочай клясы“.

Карэннае адрозьненьне паміж комуністычнай партыяй, як партыяй новага тыпу, і партыямі II інтэрнацыяналу. Хвасьцізм партый II інтэрнацыяналу, якія зьяўляюцца праваднікамі буржуазнай політыкі. „Тэорыя стыхійнасьці“ як тэорыя опортунізму. Барацьба бальшавікоў супроць тэорыі стыхійнасьці як барацьба за гегемонію пролетарыяту, за авангардную ролю партыі.

Партыя як неадрыўная частка рабочай клясы. Адрозьненьне паміж перадавым атрадам і астатняй масай і недапушчальнасьць ператварэньня гэтага адрозьненьня ў разрыў. „Партыя перастала-б быць партыяй, калі гэта адрозьненьне ператварылася ў разрыў“. Неабходнасьць цясьнейшай сувязі з масамі. Узаемаадносіны паміж партыяй і клясай, паміж партыяй і беспартыйнымі ў рабочай клясе як „узаемадавер‘е паміж авангардам рабочай клясы і рабочай масай“ (Ленін). Масавы прыток рабочых у партыю як доказ неразрыўнай, непахіснай сувязі партыі з масамі. Комінтэрн—сусьветная партыя бальшавізму.

2. Партыя як арганізаваны атрад рабочай клясы. Партыя ўвасабленьне арганізаванасьці і дысцыпліны. Арганізацыйныя прынцыпы бальшавізму. Дэмократычны цэнтралізм як асноўны прынцып арганізацыйнай пабудовы партыі. Асноўныя палажэньні статуту партыі як ленінізму ў арганізацыйным пытаньні. Барацьба за самую строгую жалезную дысцыпліну ў партыі, якая апіраецца на сьвядомы ўдзел членаў партыі ў партыйным жыцьці. „Хто хоць колькі-небудзь паслабляе жалезную дысцыпліну партыі пролетарыяту (асабліва ў пэрыод яго дыктатуры), той фактычна дапамагае буржуазіі супроць пролетарыяту“ (Ленін). Роля ленінскага ЦК, як выпрабаванага баявога рэволюцыйнага штабу ў кіраўніцтве партыяй.

Сутнасьць унутрыпартыйнай дэмократыі. Самакрытыка як зброя выхаваньня сапраўды бальшавіцкіх кадраў. Самакрытыка—адзнака сілы нашай партыі і сродак яе ўмацаваньня. Неабходнасьць барацьбы за сапраўды бальшавіцкую самакрытыку, супроць усялякіх спроб яе скажэньня.

3. Партыя як вышэйшая форма клясавай організацыі пролетарыяту. Партыя і масавыя організацыі рабочай клясы. Кіруючая роля партыі, якая заключаецца ў вызначэньні тэй лініі, таго агульнага напрамку, па якім павінны весьці сваю работу масавыя організацыі пролетарыяту і ў забесьпячэньні цьвёрдага праздзеньня гэтай лініі ў жыцьцё. Формы кіраўніцтва партыі беспартыйнымі організацыямі.

Несумяшчальнасьць опортуністычнай тэорыі „незалежнасьці“ „нэйтральнасьці“ беспартыйных організацый з тэорыяй і практыкай ленінізму.

4. Партыя, як зброя дыктатуры пролетарыяту. „Партыя ёсьць ня толькі вышэйшая форма аб'яднаньня пролетараў,—яна разам з тым зброя ў руках пролетарыяту для заваяваньня дыктатуры, калі яна яшчэ не заваёвана, для ўмацаваньня і расшырэньня дыктатуры, калі яна ўжо заваёвана“.

Партыя як „накіроўваючая сіла“, асноўная кіруючая сіла ў сыстэме дыктатуры пролетарыяту. Масавыя організацыі як „прыводы“ і „вагары“, без дапамогі якіх немагчыма ажыцьцяўленьне дыктатуры. Ажыцьцяўленьне партыяй дыктатуры пролетарыяту пры дапамозе „прыводаў“. Недапушчальнасьць утоесамленьня дыктатуры пролетарыяту з кіруючай роляй партыі. „Хто ўтоесамляе кіраўніцтва партыі з дыктатурай пролетарыяту, той скажае Леніна, няправільна прысвойваючы партыі функцыі насільля ў адносінах рабочай клясы ў цэлым“. Недапушчальнасьць супроцьстаўленьня дыктатуры пролетарыяту кіраўніцтва партыі. „Кіраўніцтва партыі ёсьць галоўнае ў дыктатуры пролетарыяту“.

Роля правадыроў у нашай партыі. Ленін як тэорэтык, ідэйны правадыр і організатар сусьветнай партыі пролетарыяту. Роля т. Сталіна як тэорэтыка і правадыра сусьветнага пролетарыяту, як лепшага вучня Леніна, узбагаціўшага марксысцка-ленінскае вучэньне і падняўшага яго на новую ступень.

5. Партыя як адзінства волі, несумяшчальнае з існаваньнем фракцый. УсеКП(б) як адзіная партыя рабочай клясы СССР. Фракцыйнасьць зьнішчае адзінства волі, аслабляе і разлагае дысцыпліну, аслабляе і разлагае дыктатуру. Пастанова X зьезду партыі аб адзінстве партыі. Патрабаваньне Леніна аб поўным зьнішчэньні ўсякай фракцыйнасьці і безадкладным роспуску ўсіх бяз выключэньня фракцый пад страхам бязумоўнага і безадкладнага выключэньня з партыі. Фракцыйнасьць як шлях да організацыі новай партыі. Контррэволюцыйны трацкізм у барацьбе супроць

адзінства і монолітнасьці ленінскай партыі. Фракцыйная барацьба правых супроць партыі і паклёп на партыйны рэжым. Права-„лявацкі" блёк у барацьбе супроць адзінства і жалезнай дысцыпліны ленінскай партыі.

6. Партыя ўмацоўваецца там, што ачышчае сябе ад опортуністычных элемэнтаў. Крыніцай фракцыйнасьці ў партыі зьяўляюцца опортуністычныя элемэнты.

Тэорыя „зжываньня" опортуністычных элемэнтаў у рамках аднэй партыі як гнілая і небясьпечная тэорыя, пагражаючая асудзіць партыю на паралюш і хранічнае недамаганьне, пагражаючая аддаць партыю на зьядзеньне опортунізму, пагражаючая пакінуць пролетарыят без рэволюцыйнай партыі.

Барацьба Леніна і Сталіна за партыю бальшавікоў, як партыю новага тыпу эпохі імпэрыялізму і пролетарскіх рэволюцый. Наша партыя як самая рэволюцыйная, тэорэтычна самая пасьлядоўная і дысцыплінаваная партыя ў сусьветнай гісторыі.

7. Пролетарыят як магутная зброя партыі ў ажыцьцяўленьні палітычных і арганізацыйных задач клясавай барацьбы пролетарыяту. Умацаваньне і пабудова партапарату як умова ахопу мас і мобілізацыі іх на барацьбу за вырашэньне задач соцыялістычнага будаўніцтва.

Шляхі перабудовы партапарату ў сувязі з лёзунгам т. Сталіна: „па-новаму працаваць, па-новаму кіраваць".

Партыйная ячэйка як аснова партыйнай арганізацыі, вытворчы прынцып будаўніцтва партыйных ячэек. Арганізацыйная структура партыі (ад ЦК да ячэйкі).

Перанясеньне цэнтру цяжару партыйнай работы на прадпрыемстве, у саўгасе, МТС і калгасе ў цэх і брыгаду. Барацьба за выкананьне вытворчых плянаў як асноўная баявая задача партыйнай работы на прадпрыемствах, у калгасах і саўгасах. Абавязак комуністаў на прадпрыемстве, у саўгасе, у колгасе быць лепшымі ўдарнікамі, застрэльшчыкамі ў барацьбе за выкананьне вытворчага пляну.

Павышэньне ідэйна-палітычнага ўзроўню членаў партыі, як адна з важнейшых умоў устойлівасьці і актыўнасьці членаў партыі. Асаблівае значэньне задач марксысцка-ленінскага выхаваньня ў сучасных умовах соцыялістычнага будаўніцтва і вялізарнага росту партыі.

### ЛІТАРАТУРА ДЛЯ СЛУХАЧОЎ

1. Волін, I выпуск (знаходзіцца ў друку).
2. Мэтодраспрацоўка Культпропа ЦК КП(б)Б.

### ЛІТАРАТУРА ДЛЯ КІРАЎНІКОЎ

Ленін, „Что делать“, твор, т. IV, стар 378—402, выд. 2-е і 3-е.

Ленін, „Детская болезнь „левизмы“ в коммунизме“, твор, т. XXV.

Ленін, „Речь на II с'езде партии по организационных вопросах“, твор, т. VI, выд. 2-е і 3-е.

Сталін, „Вопросы ленинизма“. Об основах ленинизма“, падр. VIII „Партия“.

Сталін, „К вопросам ленинизма“, „Партия и рабочий класс в системе диктатуры пролетариата“.

Рэзолюцыя II кангрэсу Комінтэрну па арганізацыйных пытаньнях.

Рэзолюцыя X зьезду УсеКП(б) аб партыйным будаўніцтве.

Сталін, „Вопросы ленинизма“, „Об основах ленинизма“, падр. VII, „Стратегия и тактика“.

Сталін, „Речь на XII партконференции и XIII партс'езде“.

Сталін, „Доклад на расширенном собрании Краснопресненского райкома“ (зб. „Об опозиции“).

Адозва ЦК УсеКП(б). „О самокритике“, „Большевик“, № 1 за 1929 год.

Пастанова ЦК „О массовой работе на предприятиях“, журнал „Партстроительство“, № 7 за 1931 год.

Програма і статут УсеКП(б).

Сталін, „Политотчет на XVI с'езде партии“, раз. III „О партии“.

Кагановіч, „Доклад на третьей Московской областной партконференции“, раз. IV, „Вопросы внутрипартийной жизни“, стар. 106.

Кагановіч, Речь на IX с'езде профсоюзов“, „Правда“, ад 20 мая 1932 года.

## Старонка пропагандыста

Уясьняючы вучэньне Леніна—Сталіна аб комуністычнай партыі як авангардзе пролетарыяту, ролю компартыі ў пролетарскай рэволюцыі і яе арганізацыйныя прынцыпы, наша тэма павінна забясьпечыць марксысцка-ленінскае выхаваньне слухачоў у духу бальшавіцкай дысцыплінаванасьці, непрымірымасьці да ўхілаў ад генэральнай лініі партыі, выхаваньне перадавікоў вытворчасьці, актыўных і сьвядомых удзельнікаў соцыялістычнага будаўніцтва.

Пры прапрацоўцы гэтай тэмы ўвага павінна быць завострана на высьвятленьні наступных пытаньняў:

1) Значэньне рэволюцыйнай тэорыі марксызму-ленінізму для рэволюцыйнага руху, для партыйнага кіраўніцтва барацьбой пролетарыяту. Бальшавіцкая непрымірымасьць і ваяўнічасьць у барацьбе за чыстату ленінскіх прынцыпаў. Разгортваючы гутарку

па гэтым пытаньні, трэба разабраць наступныя палажэньні Леніна і Сталіна:

„Без рэволюцыйнай тэорыі ня можа быць і рэволюцыйнага руху“ (Ленін).

„Ролю перадавога барацьбіта можа выканаць толькі партыя, кіруемая перадавой тэорыяй“ (Ленін).

„Без непрымірымай барацьбы з буржуазнымі тэорыямі на базе марксысцка-ленінскай тэорыі немагчыма дабіцца поўнай перамогі над клясавымі ворагамі“ (Сталін).

Пасьлядоўна разьбіраючы палажэньні правадыроў нашай партыі, неабходна, каб слухачы зразумелі вялізарнае значэньне марксысцка-ленінінскай тэорыі для рэволюцыйнай барацьбы пролетарыяту, „...асабліва да такой партыі, як наша, з прычыны тэй ролі перадавога барацьбіта міжнароднага пролетарыяту, якая выпала на яе долю, і з прычыны тэй складанасьці ўнутранай і міжнароднай абстаноўкі, якая акружае яе“ (Сталін).

2. УсеКП(б), як партыя новага тыпу. Асноўныя асаблівасьці гэтай новай партыі, выражаючыя карэннае адрозьненьне бальшавіцкай партыі ад партый II Інтэрнацыяналу.

Пры ўясьненьні гэтага цэнтральнага пытаньня ўсёй тэмы, трэба ўзяць за аснову клясычную распрацоўку яго т. Сталіным у сваіх лекцыях „Об основах ленинизма“ (лекцыя VIII—„Партия“).

Пасьлядоўна разгортваючы гутарку вакол асноўных асаблівасьцяй бальшавіцкай партыі, высьвятляючы барацьбу Леніна і Сталіна за бальшавіцкую партыю, за ленінскае адзінства яе радоў, за ўмацаваньне нашай партыі шляхам ачышчэньня яе ад опортуністычных элемэнтаў, неабходна прывесьці слухачоў да вываду, што наша партыя ёсьць самая рэволюцыйная, тэорэтычна самая пасьлядоўная і дысцыплінаваная партыя ў сусьветнай гісторыі.

3. Перанясеньне цэнтру цяжару партыйнай і масавай работы ў цэх і брыгаду і барацьба за выкананьне гаспадарчых плянаў як асноўная баявая задача партыйнай работы на прадпрыемствах, у саўгасах і колгасах.

Гутарка па гэтым пытаньні павінна праходзіць на аснове разбору пастановы ЦК УсеКП(б) ад 21 сакавіка 1931 г. „Аб партыйнай і масавай рабоце ў цэху і брыгадзе“ і высьвятленьня тых конкрэтных задач, якія стаяць перад данай парторганізацыяй і кожным слухачом школы ў барацьбе за выкананьне прамфінпляну прадпрыемства, вытворчага пляну колгасу. Тут неабходна ўвязаць ленінскае вучэньне аб авангарднай ролі

партыі, з абавязкам комуністаў быць перадавікамі вытворчасьці на прадпрыемстве, у саўгасе, колгасе, быць лепшымі ўдарнікамі, організатарамі і застрэльшчыкамі соцспаборніцтва.

Гутарка па гэтым пытаньні павінна забясьпечыць усваеньне слухачамі школы таго, што „сапраўдны і пагалоўны ўдзел комуністаў і комсамольцаў у соцыялістычным спаборніцтве і ўдарніцтве павінен вызначацца выкананьнем вытворых паказальнікаў цэху і брыгады ў цэлым..." [1]).

Прыведзеныя вышэй заўвагі аб значэньні данай тэмы і мэтодыцы пабудовы заняткаў па ёй, побач са зьмешчанай у гэтай брошуры разгорнутай програмы па гэтай тэме, павінна зьявіцца асновай для складаньня пропагандыстам свайго конкрэтнага пляну правядзеньня заняткаў у школе („рабочы запіс пропагандыста").

У рабочым матэрыяле побач з урыўкамі з твораў Леніна, Сталіна, Кагановіча, з партыйных рашэньняў, зьмешчаны гаксама паасобныя ўрыўкі са статуту партыі. Неабходна забясьпечыць (асабліва ў кандыдацкіх школах), каб гэтыя ўрыўкі са статуту партыі былі абавязкова прачытаны ўсімі слухачамі і разабраны ў часе колектыўнай гутаркі.

Матэрыялы ліпеньскага аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б аб перабудове партыйнай работы зьмешачаны ў выданай Культпропам ЦК КП(б)Б мэтодычнай распрацоўцы па гэтым пытаньні.

## РАБОЧЫ МАТЭРЫЯЛ ДЛЯ СЛУХАЧОЎ

### ДА ПЕРШАГА РАЗЬДЗЕЛУ ТЭМЫ

а) Сталін, „Об основах ленинизма". „Вопросы ленинизма", стар. 64—66, выд. 1932 г.

б) Пункт першы і сёмы са статуту УсеКП(б).

### ДА ДРУГОГА РАЗЬДЗЕЛУ

Сталін, „Об основах ленинизма". „Вопросы ленинизма", падр. VIII, „Партия", стар. 66—68, выд. 1932 г.

### ДА ТРЭЦЯГА РАЗЬДЗЕЛУ

Сталін, „Об основах ленинизма". „Вопросы ленинизма", падр. VIII „Партия" стар. 68—70, выд. 1932 г.

---

[1]) З пастановы ЦК УсеКП(б) ад 21 сакавіка 1932 году.

### ДА ЧАЦЬВЕРТАГА РАЗЬДЗЕЛУ

а) Сталін, „Об основах ленинизма". „Вопросы ленинизма", падр. VIII „Партия", стар. 70—71, выд. 1932 г.

б) Сталін, „К вопросам ленинизма", падр. V „Партия и рабочий класс в системе диктатуры пролетариата", „Вопросы ленинизма", стар. 202—205, выд. 1932 г.

в) Пункт 93—100 са статуту ЎсеКП(б).

### ДА ПЯТАГА РАЗЬДЗЕЛУ

а) Ленін, „Детская болезнь „левизны" в коммунизме", том XVII, стар. 117—120, выд. 1-е.

б) Сталін, „Об основах ленинизма", „Вопросы ленинизма", стар. 71—72, выд. 1932 г.

в) Пункты 12—19 і 83—85 са статуту ЎсеКП(б).

г) Пастановы XV зьезду ЎсеКП(б) аб статуце партыі.

### ДА ШОСТАГА РАЗЬДЗЕЛУ

а) Сталін, „Об основах ленинизма", падр. VIII „Партия", „Вопросы ленинизма", стар. 73—74, выд. 1932 г.

б) Сталін, Зборнік артыкулаў да 50-годзьдзя т. Сталіна. Артыкул Кагановіча Л., стар. 45—55, выд. 1929 г.

в) „Программа и устав Коминтерна", стар. 145—146, выд. 1931 г.

### ДА СЁМАГА РАЗЬДЗЕЛУ

а) Пастанова ЦК УсеКП(б) ад 21 сакавіка 1932 г. аб партыйнай і масавай рабоце ў цэху і брыгадзе.

б) Пастанова ліпеньскага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б аб перабудове арганізацыйна-партыйнай, масавай і палітвыхаваўчай работы партыі.

## 3. ТЭМА: УЗЬНІКНЕНЬНЕ, РАЗЬВІЦЬЦЁ БАЛЬШАВІЗМУ І ЯГО МІЖНАРОДНЫ ХАРАКТАР

*Плян прапрацоўкі*

### Першыя заняткі

### ГІСТАРЫЧНАЯ ПАДРЫХТОЎКА І АФАРМЛЕНЬНЕ БАЛЬШАВІЗМУ

### І. Гістарычныя карэньні бальшавізму

1) Соцыяльна-экономічная абстаноўка, у якой узьнік і афарміўся бальшавізм.

2) Ленін і Сталін аб асаблівасьцях фармаваньня бальшавізму ў Расіі.

3) Расія—вузлавы пункт супярэчнасьцяй імпэрыялізму і цэнтр сусьветнага рэволюцыйнага руху.

4) Інтэрнацыянальная сутнасьць бальшавізму (з пачатку яго ўзьнікненьня), як тэорыі і тактыкі пролетарскай рэволюцыі.

## II. Ідэйнае афармленьне бальшавізму і барацьба за гегемонію ў рабочым руху

1) Група „Освобождения Труда“ ў організацыі соцыял-дэмократычнага руху ў Расіі.

2) Опортуністычныя і меншавіцкія тэндэнцыі групы „Освобождения Труда“.

3) Антыленінская сутнасьць поглядаў, што Плехаваў быў тэорэтыкам і асновапаложнікам бальшавізму.

4) Ленінская пастаноўка асноўных пытаньняў рэволюцыі ў 90-х гг.: аб гегемоніі пролетарыяту, аб саюзе пролетарыяту з сялянствам, аб адносінах да лібэральнай буржуазіі.

5) Бальшавіцкая схэма і пэрспэктыва рэволюцыі, расстаноўка клясавых сіл, разьвітыя Леніным ў яго кнізе „Шаг вперед два шага назад“.

6) Барацьба на два фронты з дробнабуржуазным уплывам народніцкага соцыялізму і буржуазным уплывам легальнага марксызму.

7) Асноўныя ідэі „легальнага марксызму“, як рэвізіі марксызму ў пытаньнях тэорыі і практыкі і яго сувязь з бэрнштэніянствам.

8) Барацьба Леніна з „об'ектывізмам“ Струвэ і пастаноўка пытаньня аб партыйнасьці тэорыі.

9) Барацьба Леніна супроць расійскага опортунізму (легальны марксызм, экономізм) і яе сувязь з барацьбой супроць опортунізму і цэнтрызму на міжнароднай арэне.

## III. Барацьба за стварэньне бальшавіцкай партыі

1) „Искра“ і роля Леніна, як яе організатара і кіраўніка.

2) Работа Леніна ў „Искре“ па стварэньні і згуртаваньні партыі і выпрацоўцы рэволюцыйнай програмы.

3) Ленінская барацьба за рэволюцыйную тэорыю, за ролю сьвядомасьці ў рабочым руху, супроць хвасьцісцкай тэорыі стыхійнасьці.

4) Роля ЦК партыі на чале з т. Сталіным у барацьбе за чыстату маркса-ленінскай тэорыі і значэньні лісту т. Сталіна ў журн. „Пролетарская революция“.

5) Барацьба Леніна з экономізмам, як расійскай рознавіднасьцю міжнароднага опортунізму.

6) Барацьба з саматужніцтвам экономістаў за стварэньне партыі—авангарду і організацыйны плян Леніна, разьвіты ім у „Искре“.

### IV. Барацьба на II зьездзе і стварэньне бальшавіцкай партыі

1) II зьезд і яго значэньне ў гісторыі партыі.

2) Асноўныя разыходжаньні на зьезьдзе (аб програме партыі, аб статуце партыі, аб адносінах да лібэральнай буржуазіі).

3) Барацьба бальшавікоў з рознымі відамі опортунізму (экономізм, Бунд, меншавізм) за стварэньне партыі новага тыпу.

4) Раскол на II зьезьдзе, як афармленьне дзьвюх самастойных партый пролетарскай пасьлядоўна-рэволюцыйна-бальшавіцкай і дробнабуржуазнай—опортуністычнай-меншавіцкай.

5) Скажэньне гісторыі гэтай барацьбы трацкістамі—контрабандыстамі.

6) Міжнароднае значэньне расколу, ажыцьцёўленага бальшавікамі ў РСДРП.

7) Нацпытаньне на II зьезьдзе і барацьба ленінцаў на два фронты супроць дробнабуржуазнага нацыяналізму Бунду, вялікадзяржаўніцкіх установак люксэмбургіянства ў РС-ДРП.

8) Меншавізм, як расійская рознавіднасьць міжнароднага опортунізму, трацкізм, як рознавіднасьць цэнтрызму.

9) Раскольніцкая дзейнасьць меншавікоў, цэнтрысцкая позыцыя Плеханава і пераход яго на бок меншавікоў.

10) Барацьба Троцкага супроць бальшавіцкіх прынцыпаў пабудовы партыі. Прымірэнцтва ў радох бальшавікоў і барацьба Леніна з ім.

11) Выступленьне Розы Люксэмбург супроць бальшавіцкіх прынцыпаў і ленінская крытыка яе памылак.

12) Выступленьне правадыроў II Інтэрнацыяналу (Каўцкі) супроць Леніна і бальшавікоў і падтрыманьне імі меншавікоў.

13) Трэці зьезд партыі, як завяршэньне этапу барацьбы за стварэньне бальшавіцкай партыі.

## ЛІТАРАТУРА ДА ПЕРШЫХ ЗАНЯТКАЎ

**(для прапагандыстаў)**

Сталін. „Вопросы ленинизма". „Исторические корни ленинизма", стар. 7—13.

Ленін. Том II. „Проект программы нашей партии", стар. 529—550.

Ленін. Том. I. „Что такое „друзья народа"? стар. 170—194.

Ленін. Том. I. „Экономическое содержание народничества", стар. 275—276.

Ленін. Том IV. „Что делать"? разьдз. I, II і IV.

Сталін. „Вопросы ленинизма", разьдз. „Теория", стар. 19—23. „Протоколы II с'езда". „Речь Ленина", стар. 230—232. „Речь Аксельрода", стар. 220, „Речь Мартова и Плеханова", стар. 222—227. „Речь Троцкого", стар. 225—230.

Працаколы II зьезду. Дадатак 9 і 10.

Ленін. Том V. „Национальный вопрос в нашей программе", стар. 337—349.

Ленін. Том V. „Нужна ли самостоятельная политическая партия еврейскому пролетариату", стар. 245—249.

Ленін. Том VI. „Шаг вперед, два шага назад", стар. 201—220, 264—291, 291—300, 324—328.

## Другія заняткі

## БАЛЬШАВІЗМ У РЭВОЛЮЦЫІ 1905 ГОДУ

### I. Стратэгія бальшавікоў у рэвалюцыі 1905 году

1) Рэволюцыя 1905 г. першая буржуазна-дэмократычная рэволюцыя эпохі імпэрыялізму.

2) Своясаблівасьць рэволюцыі 1905 году, як буржуазна-дэмократычнай па характару і пролетарскай па мэтодах барацьбы (стачкі, узброенае паўстаньне), якая адбывалася ва ўмовах імпэрыялізму.

3) Ленінскае вучэньне аб гегемоніі пролетарыяту ў буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі і яго бліжэйшых саюзьніках—сялянстве і прыгнечаных нацыянальнасьцях.

4) Лёзунг рэволюцыйна-дэмократычнай дыктатуры пролетарыяту і сялянства, як цэнтральнае пытаньне першага этапу рэволюцыі 1905 г.

### II. Ленінская тэорыя перарастаньня ў рэволюцыі 1905 г.

1) *Умовы і прадпасылкі для перарастаньня* буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі ў соцыялістычную і вучэньне Леніна аб дзьвюх соцыяльных войнах.

2) Ленінская ацэнка рэволюцыі 1905 году.

3) Асноўная ўмова для перарастаньня—ступень падрыхтоўкі пролетарыяту.

4) Барацьба за рэволюцыйна-дэмократычную дыктатуру пролетарыяту і сялянства, за гегемонію пролетарыяту ў ёй, як барацьба за перарастаньне буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі ў социялістычную.

5) Барацьба бальшавікоў з лібэральна буржуазнай ацэнкай рэволюцыі 1905 г., меншавізмам і троцкізмам—рознавіднасьцю меншавізму.

6) Тэорыя „пэрманэнтнай“ рэволюцыі Парвуса—Троцкага і яе буржуазна-капітулянцкая сутнасьць: няверʻе ў гегемонію пролетарыяту, адмаўленьне рэволюцыйнай ролі салянства, адмаўленьне магчымасьці пабудовы социялізму ў аднэй краіне.

7) Барацьба Леніна і Сталіна з троцкісцкай тэорыяй „пэрманэнтнай“ рэволюцыі.

8) Барацьба з паўменшавіцкімі хістаньнямі Розы Люксэмбург у асноўных пытаньнях рэволюцыі 1905 г.

9) Барацьба супроць троцкісцкага паклёпу і фальсыфікацыі гісторыі бальшавізму ў рэволюцыі 1905 г. і пытаньнях перарастаньня. Роля т. Сталіна ў выкрыцьці троцкісцкіх контрабандыстаў.

### III. Тактыка бальшавікоў у рэволюцыі 1905 г.

1) Партыя, як кіраўнік і організатар ўзброенага паўстаньня.

2) Адмаўленьне меншавікоў і троцкістаў ад кіраўніцтва і падрыхтоўкі узброенага паўстаўньня, пасыланьні на самацёк і пасыўнае чаканьне.

3) Недаацэнка Розай Люксэмбург кіраўніцтва партыі ва ўзброеным паўстаньні.

4) Адносіны бальшавікоў да часовага ўраду, ацэнка саветаў як органаў паўстаньня і зародкавыя органы ўлады.

5) Тактыка партыі ў адносінах да сялянскага руху і барацьба бальшавікоў за радыкальнае вырашэньне аграрнага пытаньня.

6) Лёзунг конфіскацыі зямлі і організацыі рэволюцыйных сялянскіх комітэтаў, як лёзунг сялянскага паўстаньня.

7) Лёзунг нацыяналізацыі зямлі, як радыкальная расчыстка прыгоньніцтва і крок па шляху перарастаньня буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі ў социялістычную.

8) Меншавіцкая аграрная програма, як выражэньне няверʻя да сіл рэволюцыі.

9) Нацпытаньне ў рэволюцыі 1905 г. Барацьба бальшавікоў за заваяваньне рэзэрваў і падтрыманьне нацыянальна-вызваленчага руху і крытыка поглядаў люксэмбургіянства.

10) Партыйнае будаўніцтва ў гэты пэрыод, рост новых кадраў, разьвіцьцё ўнутрыпартыйнай дэмократыі.

11) Часовае аб'яднаньне бальшавікоў з меншавікамі на IV зьезьдзе, як тактыка адзінага фронту, з мэтай адцягненьня рабочых ад меншавікоў.

12) Барацьба бальшавікоў на міжнароднай арэне (Штутгардзкі конгрэс) з опортунізмам і цэнтрызмам па пытаньнях вайны і рэволюцыі.

### ЛІТАРАТУРА ДА ДРУГІХ ЗАНЯТКАЎ

(для пропагандыстаў)

Сталін. „Вопросы ленинизма", „Крестьянский вопрос", стар. 48—53.

Сталін. Падр. „Теория", стар. 27—33.

Ленін. Том. VIII, „Две тактики социял-демократии" § 3, стар. 43—48 § 6, стар. 55—66, § 10, стар. 79—86, § 12 і 13, стар. 90—105.

Ленін. Том VII, „Социал - демократия и временное правительство", стар. 183—195.

Ленін. Том VII. „Революционно-демократическая диктатура пролетариата и крестьянства", стар. 196—202.

Ленін. Том VIII. „Отношение социал-демократии к крестьянскому движению", стар. 181—188.

Ленін. Том VIII. „Социализм и крестьянство", стар. 255—261.

Сталін. „Об оппозиции", стар. 389—395.

Сталін. О некоторых вопросах истории большевизма". Ліст у рэдакцыю журнала „Пролетарская революция".

Сталін. „Вопросы ленинизма" „Октябрьская революция и тактика руских коммунистов", стар. 109—116.

Кагановіч. „За большевистское изучение истории партии".

Ленін. Том IX. „Доклад об об'единенном с'езде", стар. 184—200, 213—226.

Ленін. Том XIX, „Доклад о революции 1905 года", стар. 343—358.

Ленін. Том XII. „Международный социалистический конгресс в Штугарте", стар. 78—83, 84—93.

### РАБОЧЫ МАТЭРЫЯЛ ДА ПЕРШЫХ ЗАНЯТКАЎ

ПЕРШЫ РАЗЬДЗЕЛ

Сталін. „Вопросы ленинизма". Падр. І. „Исторические корни ленинизма", стар. 7 ад слоў: „Ленинизм вырос", да слоў: „штурму капитализма".

Сталін. Стар. 9—11 ад слоў: „Все это хорошо" да слоў: „Ленин и его творцам".

Ленін. Том IV. „Что делать", стар. 382, ад слоў: „история поставила" да слоў: „революционного пролетариата".

## ДРУГІ РАЗЬДЗЕЛ

Ленін, Том І. „Что такое „друзья народа“? Стар. 184—185 ад слоў: „прошу заметить“ да слоў: „благородных помещиков“, стар. 186—187 ад слоў: „И в России“—да слоў: „рабочего движения“, стар. 193—194 ад слоў: „политическая деятельность“ да слоў: „коммунистическая революция“.

Ленін. Том І. „Экономическое содержание народничества“, стар. 275—276 ад слоў: „это язык об‘ективиста“ да слоў: „общественной группы“.

Ленін. Том IV. „Что делать“? стар. 366—369 ад абзацу а) „Что значит свобода критики“ да слоў: „поворачивает к болоту“. Абзац в) „критика в России да слоў: „разрыв был необходим“.

## ТРЭЦІ РАЗЬДЗЕЛ

Ленін. Том IV. „Заявление редакции „Искры“, стар. 39—40, ад слоў: создать и упрочить“ да слоў: „многих других“.

Ленін. Том IV. „С чего начать“, стар. 110—111, ад слоў: „наше движение“ да слоў: „революционной партии“.

Ленін. Том IV. „Что делать“? стар. 380—381, ад слоў: „Без революционной теории“ да слоў: „передовой теории“; стар. 391—392, ад слоў: „Раз о самостоятельной“ да слоў: „революционной социал-демократии“; стар. 393, ад слоў: „но почему же“ да слоў: „пред стихийностью“.

Сталін. „Вопросы ленинизма“. Падр. „Теория“, стар. 19—20, ад слоў: „Означение теории“ да слоў: „в ближайшем будущем“; стар. 21 ад слоў: критика теории стихийности“ да слоў: „роль в революции“.

Сталін. „Вопросы ленинизма“. „О некоторых вопросах истории большевизма“, стар. 784—786 ад слоў: „троцкизм есть“ да слоў: „с них маски“.

Ленін. Том IV. „Что делать“, стар. 440—441. Абзац б) „Кустарничество и экономизм“ да слоў: „и политических задач ее“.

Ленін. Том IV. „Что делать“, абзац б) „организация рабочых и организация революционеров“, стар. 456—458, ад слоў „А раз вы“ да слоў: „поднимать кустарей до революционеров“.

## ЧАЦЬВЕРТЫ РАЗЬДЗЕЛ

Ленін. Том VI. „Реч при обсуждении устава партии“, стар. 31—33, ад слоў: „переходя к существу“ да слоў: „формулировки Мартова“.

Ленін. Том. VI. „Рассказ о втором с‘езде РСДРП“, стар. 54—56, ад слоў: „другой эпизод“ да слоў: „всех единомыслящих“.

Ленін. Том VI. „Шаг вперед, два шага назад“. Абзац н) „общая картина борьбы на с‘езде“, стар. 271—272, ад слоў: „и вот теперь“ да слоў: „с именем искровцев“.

Ленін. Том VI. „Шаг вперед, два шага назад“, стар. 293—294, ад слоў: „Тов. Плеханов ясна видел“ да слоў: „партийной гласности“; стар. 319—320 ад слоў: „Итак поскольку“ да слоў: „Пожеланиям и проч и проч.“; стар. 324—325, ад слоў: „бросая общий“ да слоў: „по организационному вопросу“; стар. 326—327, ад слоў: „наш партийный с‘езд“ да слоў: „должностные коллегии“; стар. 328, ад слоў: „шаг вперед“ да слоў: „интеллигентского оппортунизма“.

Сталін. „Вопросы ленинизма“. „О некаторых вопросах истории большевизма“, стар. 774—777, ад слоў: „всякий большевик“ да слоў: „по всему миру“.

Ленін. Том VI. „Чего мы добиваемся“, стар. 348—350, ад слоў: „всякие сомнения“ да слоў: „планах теперь“.

Ленін. Том V. „Нацвопрос в нашей программе“, стар. 337, ад слоў: „в проекте“ да слоў: „федеральным единством и тому подобное“, стар. 343—344 ад слоў: „прямая неправда“ да слоў: об'единяющейся буржуазии“.

Ленін. Том VI, „Реч по вопросу о месте Бунда“, стар. 18—19, ад слоў: „Я коснусь“ да слоў: „удовлетворяется вполне“.

## РАБОЧЫ МАТЭРЫЯЛ ДА ДРУГІХ ЗАНЯТКАЎ

### ПЕРШЫ РАЗЬДЗЕЛ

Сталін. „Вопросы ленинизма“, „Крестьянский вопрос“, стар. 49—51, ад слоў: „в России“ да слоў: „еще в 1905 году“.

Ленін. Том VIII. „Две тактики социал-демократии в демократической революции“, стар. 55, ад слоў: „марксисты“ да слоў: „как класса“; стар; 57—58, ад слоў: „поэтому“ да слоў: „гниением учреждения“.

Ленін. Том VIII. „Две тактики социал-демократий в демократической революции“, стар. 61—62, ад слоў: „Мы должны“ да слоў „и крестьянства“; стар. 56, ад слоў: „таким образом“ да слоў: „элементы народа“; стар. 84—85 ад слоў: „у революционно-демократической диктатуре“ да слоў: „к социализму“, стар. 94, ад слоў: „но мы все“ да слоў: „демократической революции; стар. 96, ад слоў: „пролетариат должен“ да слоў: „и мелкой буржуазии“.

### ДРУГІ РАЗЬДЗЕЛ

Сталін. „Вопросы ленинизма“, стар. 29, ад слоў: „Я уже“ да слоў: „этих властей“.

Ленін. Том VIII, стар. 186—187, ад слоў: „революционные крестьянские“ да слоў: „мы стремимся“.

Ленін. Том VIII, „Социализм и крестьянство“, стар. 255, ад слоў: „революция“, да слоў: „социальных сил“.

Сталін. „Вопросы ленинизма“, стар. 31—33, ад слоў: „идея“ перманентной, да слоў: „роли крестьянства“.

Сталін. „Октябрьская революция и тактика русских коммунистов“. стар. 114 ад слоў: „ясно, что“ да слоў: „разновидность меньшевизма“.

Сталін, „Вопросы ленинизма“. „О некоторых вопросах истории большевизма“, стар. 777—779, ад слоў: „В 1905 году“ да слоў: „Против ленинизма“.

### ТРЭЦІ РАЗЬДЗЕЛ

Ленін. Том VIII. „Две тактики социал-демократии“, стар. 40—41, ад слоў „таким образом“ да слоў „если же и другие“.

Ленін. Том VIII. „Две тактики социал-демократии“, стар. 42—43, ад слоў: „выяснить“ да слоў: „программы—минимум“.

Ленін. Том VII. „Проект резолюции об отношении РСДРП к вооруженному восстанию“, стар. 255.

Ленін. Том IX. „Тактическая платформа к об'единительному с'езду“. „Советы рабочих депутатов“, стар. 44—45.

Ленін. Том IX. „Об'единенный с'езд РСДРП", стар, 151—152, ад слоў: „мы должны" да слоў: „аграрные реформы".

Ленін. Том IX. „Доклад об об'единенном с'езде", стар. 223, ад слоў: „И вот" да слоў: „буржуазную революцию".

Ленін. Том XII. „Международный социалистический конгресс в Штутгарте", стар. 82—83, ад слоў „переходим к последней да слоў: „наивного эрвэизма".

Усе старонкі на „Вопросы ленинизма" Сталіна паказаны па 4-м дапоўненым выданьні за 1931 г., а ўсе старонкі па Леніну паказаны па новым выданьні.

## Лісток пропагандыста

Гэта тэма па гісторыі партыі ідзе першай у програме для кандыдацкіх школ і таму перш за ўсё ў пачатку гутаркі трэба спыніцца на значэньні вывучэньня гісторыі бальшавізму ў справе выхаваньня і загартаваньня маладых членаў партыі, у справе выхаваньня бальшавіцкай непрымірымасьці да ўсіх ухілаў ад генэральнай лініі партыі.

Тэма павінна быць разьбіта і прапрацавана на двух самастойных занятках. Стрыжнёвым і галоўным пытаньнем, на якім трэба завастрыць увагу слухачоў у першых занятках, павінна быць высьвятленьне інтэрнацыянальнага характару бальшавізму і яго карэньняў, як тэорыі і тактыкі пролетарскай рэволюцыі, тэорыі і тактыкі дыктатуры пролетарыяту. Павінны быць выкрыты ўсе скажэньні ў гэтым пытаньні, якія ацэньваюць бальшавізм, толькі як зьяву рускую, нацыянальную. Неабходна ўясьніць барацьбу Леніна з народніцтвам, легальным марксызмам і эканомізмам за ідэйную гегемонію пролетарыяту ў рэволюцыйным руху і як гэта барацьба аднач асова была зьвязана з барацьбой Леніна супроць міжнароднага опортунізма (Бэрнштэйн) і цэнтрызму. Трэба даказаць, што на аснове барацьбы на два фронты, Леніну ўдалося згуртаваць партыю вакол „Искры" і бальшавіцкіх прынцыпаў пабудовы партыі, і такім чынам ажыцьцявіць раскол з опортуністамі і цэнтрыстамі ў Расіі, у прамой барацьбе супроць палітыкі II Інтэрнацыяналу і яго партый за стварэньне сусьветнай партыі новага тыпу.

Тут трэба паказаць таксама на паўменшавісцкія памылкі Розы Люксэмбург у гэтых пытаньнях, недаацэнку ёй ролі партыі—авангарду і бальшавіцкіх організацыйных прынцыпаў, і неабходнасьць перамаганьня гэтых памылак з боку Леніна і бальшавікоў.

У другіх занятках цэнтральным пытаньнем, вакол якога трэба завастрыць увагу слухачоў, зьяўляецца высьненьне стратэгічнага пляну бальшавікоў у рэволюцыі 1905 году, разьлічанага на гегемонію пролетарыяту ў буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі на барацьбу за рэволюцыйна-дэмократычную дыктатуру пролетарыяту і сялянства, як барацьбу за перарастаньне буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі ў социялістычную. Высьненьнем таго, што мы мелі ў рэволюцыі 1905 г. дзьве тактыкі—пасьлядоўна рэволюцыйную бальшавіцкую і лібэральна-буржуазную меншавіцкую, што бальшавіцкая тактыка—шлях, забясьпечваючы перарастаньне буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі ў соцыялістычную.

Асабліва трэба падкрэсьліць тое становішча, што барацьба на два фронты і з прымірэнцтвам у радох бальшавікоў у рэволюцыі 1905 г. зьяўляецца рашаючай умовай ідэйнага і організацыйнага ўмацаваньня бальшавіцкай партыі.

Выясьніўшы і разабраўшы ўсе ленінскія ўстаноўкі і тактыку бальшавікоў у рэволюцыі 1905 г. і яе міжнароднае значэньне, як вопыт для Комінтэрну, трэба паказаць сутнасьць фальсыфікацыі і трацкісцкай контрабанды, выкрытай т. Сталінам у яго лісьце па пытаньнях рэволюцыі 1905 г. і перарастаньні.

Рабочы матэрыял дадзены для гэтай тэмы, патрабуе ад пропагандыста дыфэрэнцыяванага падыходу да слухачоў і рэкомэндацыі яго слухачом па ўзроўні іх разьвіцьця.

---

## 1. ЗБОЖЖАЗАГАТОЎЧАЯ І ЖЫВЁЛАЗАГАТОЎЧАЯ КАМПАНІІ „ЧАЦЬВЕРТАГА ЗАВЯРШАЛЬНАГА ГОДУ ПЯЦІГОДКІ“ (МЭТАРАСПРАЦОЎКА)

### УСТУП

„На ўсіх этапах нашага разьвіцьця збожжазагатоўкі, як у фокусе надзвычайна яскрава адлюстроўвалі клясавыя зрухі ў краіне, рост палітычнай актыўнасьці працоўных гораду і вёскі, умацаваньне палітычных і эканамічных пазыцый пролетарскай дыктатуры“ („Правда“ ад 8/V 1932 г.). Тое-ж самае можна паўтарыць і аб жывёлазагатоўках. Пытаньне загатовак павінна зараз стаяць у цэнтры ўвагі ўсёй партыі. На гэтым найважнейшым вучастку нашай партыі адбываюцца адны з найбольш жорсткіх клясавых баёў з кулаком. Па гэтых-жа пытаньнях партыя вяла і вядзе рашучую барацьбу з правым опортунізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, а таксама і з „левым“ опортунізмам.

Гісторыя загатовак за апошнія гады зьяўляецца гісторыяй узрастаючай, паглыбляючыхся клясавых баёў, гісторыя барацьбы за генэральную лінію нашай партыі, гісторыяй нячуваных перамог нашай партыі над клясавым ворагам і над яго агентурай унутры партыі.

Лічбы збожжазагатовак яскрава адлюстроўваюць гэтыя нашы перамогі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| У 1925—26 г. | мы загатовілі | 434 | млн. пудоў збожжа |
| У 1926—27 „ | „ „ | 596 | „ „ „ |
| У 1927—28 „ | „ „ | 576 | „ „ „ |
| У 1929 годзе | „ „ | 660 | „ „ „ |

У 1930 г. „пасьля году вялікага пералому, пасьля таго як колгасны рух ахапіў асноўныя масы сялянства“ („Правда“ ад 8/V 1932 г.) мы загатовілі 1.350 млн. пудоў.

Асабліва важны даныя 1931 г. Гэты год характарызуецца засухай у цэлым радзе ўсходніх раёнаў (Паволжжа, Урал, Казакстан, Сібір). Ня гледзячы на гэта, у 1931 г. збожжа загатоўкі далі 1.400 млн. пудоў, г. зн. больш, чым ва ўраджайным 1930 г. Як бачым, гады росту збожжазагатовак адпавядаюць гадам росту ўмацаваньня колектывізацыі і ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі. Значыцца загатоўкі, сапраўды, як у фокусе, адлюстроўваюць усе клясавыя зрухі ў нашай краіне.

Адсюль аднак не выцякае, што з ростам колектывізацыі павінен расьці дзяржаўны плян загатовак. Іменна ў рэзультаце колькаснага росту і якаснага ўмацаваньня колгасаў, мы маем магчымасьць паменшыць дзяржаўны плян загатовак па колгасах і аднаасобных гаспадарках і як сродак снабжэньня насельніцтва разгарнуць колгасны гандаль збожжам і іншымі сельскагаспадарчымі продуктамі. „У сувязі з гэтай акалічнасьцю савецкая ўлада атрымала магчымасьць побач з мэтодам дзяржаўных збожжазагатовак практыкаваць, як сродак снабжэньня гарадзкога насельніцтва, другі мэтод гандлю збожжам самімі колгасамі і колгасьнікамі“ (пастанова СНК СССР і ЦК УсеКП(б) ад 6/V 1932 г.).

Вакол колгаснага гандлю, як і вакол загатовак, ідзе жорсткая клясавая барацьба. Кулак імкнецца ператварыць колгасны гандаль у спэкуляцыю. Клясавы вораг імкнецца іграць на ўласьніцкіх перажытках колгасьнікаў, каб разваліць колгасы, сарваць нашы пляны загатовак і т. д. Адсюль пытаньні загатовак, колгаснага гандлю, уборкі ўраджаю і т. д., зьяўляюцца адначасова пытаньнямі, вакол якіх концэнтруецца барацьба за організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў у арцельнай стадыі іх разьвіцьця.

Збожжазагатоўкі неадрыўна зьвязаны з уборкай ураджаю. Добраякасная ўборка павялічвае матэрыяльную магчымасьць выкананьня загатовак і разгортваньня колгаснага ганлдю.

Пры падыходзе да загатовак трэба ўлічыць памылкі мінулага году з боку некаторых парторганізацый (Украіна, Урал). Галоўная з гэтых памылак—гэта мэханічнае разьмеркаваньне пляну загатовак па раёнах, колгасах і т. д. па „прынцыпу“ ўраўнілаўкі, бяз уліку становішча кожнага раёну і колгасу. Наглядалася таксама шмат выпадкаў, калі колгасьнікі і аднаасобнікі не атрымлівалі грошай пры здачы сельскагаспадарчых продуктаў. Гэтыя недахопы павінны быць рашуча зьнішчаны пры правядзеньні загатоўчай кампаніі.

Асноўнай формай колгаснага руху на даным этапе зьяўляецца сельскагаспадарчая арцель, дзе, з аднаго боку, аграмаджаны асноўныя сродкі вытворчасьці, што робіць яе социялістычнай формай вытворчасьці, і дзе, з другога боку, у колгасьнікаў ёсьць індывідуальная частка гаспадаркі дробна-ўласьніцкія перажыткі. Кулак чапляецца, перш за ўсё, за старыя перажыткі колгасьнікаў. Задача парторганізацый—арганізаваць разьмеркаваньне ўраджаю, уборку, загатоўкі, колгасны гандаль і т. д. так, каб садзейнічаць хутчэйшаму социялістычнаму перавыхаваньню колгасьнікаў, каб на працягу другой пяцігодкі ператварыць колгасьнікаў у сапраўдных работнікаў бясклясавага социялістычнага грамадства.

Загатоўкі гэтага году адбываюцца ў абстаноўцы поўнай перамогі колгасаў і саўгасаў у сельскай гаспадарцы. З другога боку ў абстаноўцы эбвостранай клясавай барацьбы, якая прымае новыя формы, часта вельмі скрытыя, а таму тым больш небясьпечныя.

Адсюль вывад—загатоўкі ня могуць быць прадастаўлены самацёку. Трэба арганізаваць загатоўкі як з боку матэрыяльна-тэхнічнага, так і палітычнага. Гэта значыць: своечасовая падрыхтоўка складаў, тары для перавозак; ахова загатоўленых продуктаў, улік, разьлік паміж колгасамі і загатоўчымі арганізацыямі, арганізацыя перадавой часткі колгасьнікаў, колгаснага актыву на барацьбу з рвацкімі тэндэнцыямі, на своечасовае выкананьне дзяржаўнага пляну загатовак, на барацьбу са спэкуляцыяй збожжам і іншымі сельскагаспадарчымі продуктамі, на поўнае і своечасовае выкананьне цьвёрдых заданьняў кулакамі.

Складаная абстаноўка загатоўчай кампаніі гэтага году патрабуе мобілізацыі ўсёй партыі, рабочай клясы і колгасьнікаў на тое, каб сачыць за цьвёрдым правядзеньнем рэволюцыйнай законнасьці, не дапускаць ніякіх „лявацкіх“ перагібаў у адносінах да колгасьнікаў і працоўных аднаасобнікаў. Цьвёрдае правядзеньне рэволюцыйнай законнасьці, азначае разам з тым прымяненьне самых жорсткіх мерапрыемстваў аж да вышэйшай меры соцыяльнай абароны ў адносінах да кулакоў-спэкулянтаў—зьнішчальнікаў грамадзкай уласнасьці.

Апошняя пастанова аб ахове дзяржаўных прадпрыемстваў і замацаваньні грамадзкай уласнасьці павінна быць шырока популярызавана ў масах рабочых, колгасьнікаў і працоўнага аднаасобнага сялянства.

## Збожжазагатоўчая і жывёлазагатоўчая кампанія чацьвертага заключнага году пяцігодкі

*Мэта* заданьня—уясьніць:

1. Што „на ўсіх этапах нашага разьвіцьця збожжазагатоўкі (таксама і жывёлазагатоўкі—*І. О.*), як у фокусе, надзвычайна яскрава адлюстроўвалі клясавыя зрухі ў краіне, рост палітычнай актыўнасьці працоўных гораду і вёскі, умацаваньне палітычных і экономічных позыцый пролетарскай дыктатуры“ (перадавая „Правды“ ад 8-V 1932 г.).

2. Што пастановы СНК і ЦК УсеКП(б) аб збожжа-і жывёлазагатоўках зьяўляюцца таму *новым, важным зьвяном ленінскай палітыкі нашай партыі*.

3. Што неабходна мобілізаваць увагу ўсёй партыі на пасьпяховае правядзеньне збожжа-і жывёлазагатовак.

4. Што загатоўкі цесна зьвязаны з пытаньнем організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў у арцельнай форме іх разьвіцьця.

5. Цесную сувязь паміж збожжазагатоўкамі і ўборачнай кампаніяй.

6. *Сувязь паміж загатоўкамі і разгортваньнем колгаснага гандлю, як найважнейшай часткай разгортваньня тавараабароту.*

7. Нямінучасьць абвостранай клясавай барацьбы вакол загатовак, уборкі і разгортваньня колгаснага гандлю.

8. Што барацьба з агентурай кулака—правым опортунізмам як галоўнай небясьпекай на даным этапе і з „левым“ опортунізмам—адна з галоўнейшых умоў пасьпяховага правядзеньня загатовак.

### Плян тэмы.

### I. Абстаноўка загатовак 1932 г.

1. Поўная перамога ў сельскай гаспадарцы колгасаў і саўгасаў. СССР канчаткова ўмацаваўся на новым соцыялістычным шляху:

а) ахоп колгасамі і саўгасамі $^4/_5$ усёй яравой пасеўнай плошчы СССР і 60,6 проц.—па БССР;

б) рост пасеўнай плошчы соцсэктару па СССР на 10 млн. *га* і рост пасеўнай плошчы па БССР—на 9,3 проц.;

в) МТС — асноўны вагар тэхнічнага пераўзбраеньня сельскай гаспадаркі і соцыялістычнага перавыхаваньня сялянства—засеялі 53 проц. пасеўнай плошчы колгасаў СССР і 41 проц. па БССР.

2. Зьмяненьне структуры пасеўнай плошчы ў бок павялічэньня ўдзельнай вагі тэхнічных культур.

3. Лепшы ўраджай у параўнаньні з мінулым годам.

4. Зьменшан плян збожжазагатовак па колгасах і аднаасобных гаспадарках: па СССР—на 264 млн. пудоў і па БССР—на 2 млн. пудоў.

5. Зьменшан у два разы дзяржаўны плян жывёлазагатовак на тры кварталы 1932 г. па колгасах, колгасьніках і аднаасобных гаспадарках.

6. Павялічаны плян збожжазагатовак і жывёлазагатовак па саўгасах.

7. Адначасова з дзяржаўным плянам загатовак існуюць загатоўкі коопэрацыі на аснове разгортваньня савецкага гандлю.

8. Абвостраная клясавая барацьба вакол загатовак і колгаснага гандлю.

## II. Гаспадарча-палітычнае значэньне збожжа-і жывёлазагатовак

1. Пастанова СНК і ЦК аб збожжазагатоўках—новае важнае зьвяно ленінскай палітыкі нашай партыі.

2. Пастанова СНК і ЦК УсеКП(б) „Аб пляне жывёлазагатовак і аб мясным гандлі колгасаў, колгасьнікаў і аднаасобных працоўных сялян" і вырашэньне мясной проблемы.

3. Збожжа і жывёлазагатоўкі, організацыйна - гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў і соцыялістычнае перавыхаваньне колгасьнікаў.

4. Умацаваньне сельскагаспадарчай арцелі, як асноўнай формы колгаснага руху на даным этапе.

5. Асаблівасьць сельскагаспадарчай арцелі, як соцыялістычнай формы вытворчасьці.

6. Партыя ў барацьбе супроць перагібаў, за ўмацаваньне сельскагаспадарчай арцелі.

## III. Організацыя загатовак

1. Супроць мэханічнай разьбіўкі пляну па раёнах і колгасах па „прынцыпу" ўраўнілаўкі.

2. „Дабіцца таго, каб колгасы, якія лепш пасеялі, убралі і поўнасьцю выканалі ўстаноўлены для іх плян збожжазагатовак, мелі-б адпаведна ў сваім распараджэньні для ўласных патрэб больш колькасьці збожжа“ (рэзолюцыя ліпеньскага аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б).

3. „Поўнае выкананьне пастаноў ураду аб вызваленьні асноўных ільнаводных раёнаў і колгасаў ад збожжазагатовак, а таксама зьніжэньні пляну загатовак ільнасемя ў колгасах, якія з посьпехам справіліся з церабленьнем і ўборкай ільну на 15 проц“. (Пастанова ліпеньскага аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б).

4. Сваячасова давесьці плян загатовак да кожнага раёну, колгасу, паасобных вёсак і аднаасобнікаў.

5. Правільны ўлік загатоўленага збожжа.

6. Правільная організацыя разьлікаў паміж колгасьнікамі і загатоўчымі органамі.

7. Організацыя самазагатовак спажывецкай коопэрацыяй мэтодамі савецкага гандлю.

8. Снабжэньне таварамі шырокага спажываньня збожжазагатоўшчыкаў.

9. Дыфэрэнцыяваны падыход да саўгасаў, колгасаў і аднаасобнікаў.

10. Супроць недаацэнкі аднаасобнага сэктару.

11. „Дабіцца таго, каб аднаасобныя гаспадаркі здавалі збожжа з кожнага гектару пасеву ня менш, чым суседнія колгасы“ (рэзолюцыя ліпеньскага аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б).

12. Абавязковае выкананьне цьвёрдых заданьняў кулакамі.

13. Організацыя тэхнічнай базы загатовак.

14. Хуткая прыёмка збожжа.

15. Барацьба з опортуністычным проціпастаўленьнем уборкі збожжазагатоўкам.

### IV. Умовы пасьпяховага выкананьня пляну збожжа-і мясазагатовак

1. Мобілізацыя ўвагі ўсёй парторганізацыі.

2. Барацьба з клясавым ворагам—кулаком.

3. Барацьба як з правым апортунізмам—галоўнай небясьпекай на даным этапе, так і з „левым“ апортунізмам.

4. Барацьба са спэкуляцыяй хлебам.

5. Організацыя загатовак і барацьба супроць самацёку.

6. Няўхільнае цьвёрдае правядзеньне рэволюцыйнай законнасьці.

7. Шырокая популярызацыя і неадкладнае правядзеньне ў жыцьцё пастановы ЦВК і СНК СССР аб ахове і ўмацаваньні грамадзкай (соцыялістычнай) уласнасьці.

8. Організацыя колгаснага актыву.

9. Добраякасная ўборка (барацьба са стратамі), як адна з умоў пасьпяховасьці загатовак.

10. Грамадзка-палітычная работа з колгасьнікамі і аднаасобнікамі.

### ЛІТАРАТУРА ДЛЯ КІРАЎНІКОЎ

Сталін. „Вопросы ленинизма".

а) „На хлебном фронте".

б) „Об индустриализации страны и о правом уклоне в ВКП(б)".

§ 2 „Зерновая проблема".

в) „О правом уклоне в ВКП(б)" пункт „О хлебных заготовках".

Прамова т. Молатава на трэцяй Усеукраінскай конфэрэнцыі КП(б)У 8 ліпеня 1932 г.

„Задачи украинских большевиков в работе на селе" (прамова т. Л. М. Кагановіча ва III Усеукраінскай конфэрэнцыі КП(б)У (8 ліпеня 1932 г.)

Якаўлеў. „Об организационно-хозяйственном укреплении колхозов и о развертывании колхозной торговли".

„Большевик" № 11—12 за 1932 г.

а) „Основные вопросы уборки урожая" (перадавая).

б) І. Зяленскі. „Колхозная торговля и задачи укрепления потребкооперации на селе", § VII, ст. 22—24.

Рэзолюцыя ліпеньскага аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б. „Аб выніках веснавой сяўбы і задачах уборачнай кампаніі".

Даклад т. В. Ф. Шаранговіча, „Вынікі ліпеньскага аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б.

А. Альвоў і М. Чарноў. „Организация хлебазаготовок и развертывание колхозной торговли".

М. І. Калінін. „О советской торговле".

„Правда" № 219 ад 9 жніўня.

Пастанова ЦВК СССР аб ахове і ўмацаваньні грамадзкай (соцыялістычнай) уласнасьці.

## 2. ГРАМАДЗКАЯ ЎЛАСНАСЬЦЬ—СЬВЯШЧЭННА І НЕДАТЫКАЛЬНА

### УСТУП

Тэму „Грамадзкая ўласнасьць—сьвяшчэнна і недатыкальна" неабходна прапрацаваць ва ўсёй масавай сетцы партыйнай асьветы.

Разьясьненьне дэкрэту ЦК і СНК СССР ад 7 жніўня 1932 г. дакладчыкі, пропагандысты павінны зьвязаць з апошнімі пастановамі партыі і ўраду аб умацаваньні колгасаў, уборачнай і загатоўчай кампаніі, колгасным гандлі і рэволюцыйнай законнасьці.

*Культпроп ЦК КП(б)Б.*

## Пастанова ЦК і СНК СССР ад 7 жніўня 1932 г. і пастанова ЦВК і СНК БССР ад 13 жніўня 1932 г.

### Мэта прапрацоўкі тэмы

1. Разьясьніць вялізарнае політычнае значэньне пастановы ЦВК і СНК СССР, ЦВК і СНК БССР аб ахопе і ўмацаваньні грамадзкай соцыялістычнай уласнасьці, якая зьяўляецца асновай савецкага ладу, сьвяшчэннай і недатыкальнай, і мобілізаваць масы на барацьбу супроць ворагаў народу—кулакоў, раскрадальнікаў, зладзеяў, падпальнікаў, хуліганаў, якія робяць замах на грамадзкую ўласнасьць.

2. Высьветліць прынцыповае адрозьненьне паміж прыватнай буржуазнай уласнасьцю, якая служыць асновай капіталістычнай эксплёатацыі і грамадзкай (соцыялістычнай) уласнасьцю, на аснове якой пролетарыят ажыцьцяўляе ліквідацыю кляс, зьнішчае ўсякую эксплёатацыю чалавека чалавекам.

3. Паказаць, што зладзейства, пакражы, падпалы, замахі на грамадзкую ўласнасьць у нашым Саюзе, пагрозы і насільлі над колгасьнікамі зьяўляюцца формамі клясавай барацьбы, клясавай помсты гінучых капіталістычных элемэнтаў, аказваючых шалёнае супраціўленьне разгорнутаму соцыялістычнаму будаўніцтву ў СССР, які канчаткова ўмацаваўся на новым соцыялістычным шляху.

4. Мобілізаваць пільнасьць і актыўнасьць мас на ажыцьцяўленьне пастановы ЦВК і СНК СССР, ЦВК і СНК БССР на ўмацаваньне рэволюцыйнай законнасьці, на барацьбу супроць опортуністычных элемэнтаў, супроць усякіх спроб па-опортуністычнаму, па-лібэральнаму істалкаваць рашэньні партыі і ўраду і аслабіць сілу ўдару, наносімага клясаваму ворагу—хуліганам, зладзеям і наогул антыграмадзкім элемэнтам.

## Плян і зьмест тэмы

1. Пролетарская рэволюцыя, экспропрыіраваўшых экспропрыятараў, зьнішчыла прыватную ўласнасьць на сродкі вытворчасьці і ператварыла іх у грамадзкую (социялістычную) уласнасьць. „Характэрнай асаблівасьцю комунізму зьяўляецца ня зьнішчэньне ўласьці наогул, а зьнішчэньне ўласнасьці буржуазнай“ (Маркс і Энгельс, „Коммунистический манифест“). Само ўзьнікненьне буржуазнай уласнасьці было аснавана на аграбленьні і разарэньні працоўных. „Экспропрыяцыя непасрэдных вытворцаў,—гаворыць Маркс,—адбываецца з бязьлітасным вандалізмам, яе рухаючымі спружынамі зьяўляюцца самыя бессаромныя, брудныя, ганебныя і драбязьлівыя страсьці“. Карціна першапачатковага накапленьня капіталістычнай уласнасьці прадстаўляе сабой „непараўнаную карціну здрадніцтва, подкупаў, забойстваў і подласьцяй“ (Маркс).

У барацьбе супроць феодалізму за сваё клясавае панаваньне буржуазія агаласіла прынцып „сьвяшчэннай і недатыкальнай прыватнай уласнасьці“ як аснову для ўмацаваньня капіталістычнай эксплёатацыі працоўных, для замацаваньня „сьвяшчэннага“, права паразытычнай меншасьці эксплёатаваць працоўную большасьць.

Усе сілы буржуазнага грамадзтва—армія і суд, царква і поліцыя, школа і прэса, політычныя партыі буржуазіі і яе „навуковыя“ наёмнікі—мобілізаваны на ахову „сьвятой“ буржуазнай уласнасьці, гісторыя ўзьнікненьня якой „упісана ў летапіс чалавецтва палаючай мовай мяча і агня“ (Маркс).

Зьнішчэньне прыватнай уласнасьці на сродкі вытворчасьці вядзе да зьнішчэньня кляс і ўсякай эксплёатацыі чалавека чалавекам.

2. Социялістычная (грамадзкая) уласнасьць зьяўляецца асновай савецкага ладу і экономічнай базай у выкананьні сусьветна-гістарычнай задачы, пастаўленай XVII усесаюзнай партконфэрэнцыяй,—канчатковая ліквідацыя капіталістычных элемэнтаў і кляс наогул, поўнае зьнішчэньне прычын, якія параджаюць клясавыя розьніцы і эксплёатацыю, і перамаганьне перажыткаў капіталізму ў экономіцы і сазнаньні людзей, ператварэньне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавага социялістычнага грамадзтва“ (з рэзалюцыі XVII партконфэрэнцыі).

Соцыялістычная ўласнасьць, заваяваная ў грамадзянскай вайне супроць капіталістаў, якая „зьяўляецца адна толькі законнай і справядлівай сьвяшчэннай вайной“ (Ленін), гіганцкі памножная героічнай працай рабочых і сялян,—сьвяшчэнна і недатыкальна. Усякі, хто робіць замах на яе непарушнасьць, ідзе супроць будаўніцтва соцыялізму, зьяўляецца ворагам народу. Найпершы абавязак органаў улады і ўсёй савецкай грамадзкасьці—бязьлітасна караць гэтых ворагаў народу.

„Толькі добраахвотнае і добрасумленнае,—гаворыць Ленін,—з рэволюцыйным энтузіязмам правадзімае супрацоўніцтва масы рабочых і сялян ва ўліку і контролі за багатымі, за жулікамі, за дармаедамі, за хуліганамі можа перамагчы гэтыя перажыткі праклятага капіталістычнага грамадзтва, гэтыя адкіды чалавецтва, гэтыя безнадзейна гнілыя і амяртвелыя члены, гэту заразу, чуму, язву, пакінутую соцыялізму ў спадчыну ад капіталізму“ [1]).

3. На аснове няўхільнага правядзеньня генэральнай лініі партыі рабочая кляса і колгаснае сялянства, пад кіраўніцтвам партыі на чале з ленінскім ЦК і правадыром партыі т. Сталіным пасьпяхова завяршылі фундамант соцыялістычнай экономікі, вырашылі пытаньне „хто каго?“ на карысьць соцыялізму ў горадзе і вёсцы, ліквідавалі ў асноўным кулацтва як клясу ў важнейшых сельскагаспадарчых раёнах. Гіганцкі вырасла матэрыяльная база соцыялізму—грамадзкая ўласнасьць. Савецкі саюз канчаткова ўмацаваўся на новым соцыялістычным шляху, і рашучую перамогу соцыялізму ў СССР можна лічыць ужо завершанай.

Гэта пераможнае соцыялістычнае будаўніцтва адбываецца ва ўмовах жорсткай клясавай барацьбы, далейшае абвастрэньне якой нямінуча „ў паасобныя моманты і асабліва ў паасобных раёнах і на паасобных вучастках соцыялістычнай будоўлі“ (з рэзолюцыі XVII партконфэрэнцыі).

4. Пакражы і зладзейства, хуліганства, падпалы, пагрозы і насільлі над колгасьнікамі, зьяўляецца асобымі формамі клясавай барацьбы гінучых капіталістычных элемэнтаў, якія спрабуюць сарваць соцыялістычнае будаўніцтва, разваліць колгасы, падры-

---

[1]) Ленін, т. XXII, стар. 163.

ваючы матэрыяльную аснову савецкага ладу—соцыялістычную ўласнасьць.

Умацаваньне соцыялістычнай уласнасьці, ахова маёмасьці дзяржаўных прадпрыемстваў, колгасаў і коопэрацыі, рашучае падаўленьне і перасячэньне спроб замаху на яе сьвяшчэннасьць і недатыкальнасьць, самае жорсткае пакараньне раскрадальнікаў, хуліганаў, казнакрадаў—зьяўляецца важнейшай задачай пролетарскай дыктатуры. „Дыктатура ёсьць жалезная ўлада, рэволюцыйна-сьмелая і хуткая, бязьлітасная ў падаўленьні як эксплёататараў, так і хуліганаў“ [1]).

5. У барацьбе супроць колгаснага руху кулак прымяняе насільле і пагрозы да актыўных і чэсных колгасьнікаў, ударнікаў уборачнай і загатоўчай кампаніі.

Кулак разумее, што ўмацаваньне колгасаў нямысьліма без умацаваньня грамадзкай колектыўнай уласнасьці, што г р а м а д з к а я  ў л а с н а с ь ц ь  ё с ь ц ь  а с н о в а  с е л ь с к а г а с п а д а р ч а й  а р ц е л і  я к  с о ц ы я л і с т ы ч н а г а  т ы п у  г а с п а д а р к і. Шляхам зладзейства і пакраж кулак спрабуе скараціць даходнасьць колгасаў, каб зьменшыць выдачу хлеба па працаднёх кожнаму колгасьніку. Гэтымі спосабамі клясавы вораг спадзяецца разваліць колгас, прымусіць паасобных колгасьнікаў да выхаду з колгасу і падарваць экономічную зацікаўленасьць аднаасобніка ва ўступленьні ў колгас.

Ворагі народу—кулакі, хуліганствуючыя і наогул супроцьграмадзкія элемэнты—спрабуюць наносіць шкоду выкананьню прамфінпляну, шляхам пакраж у прамысловых прадпрыемствах, на складах, у коопэратывах, на чыгуначным і водным транспорце і ў колгасах. Цэлы рад спраў, якія прайшлі перад савецкім судом, паказвае „дзейнасьць“ клясавых ворагаў (Гумгорт, Харкаўскі горт). Значных разьмераў дасягнулі пакражы на чыгунках. Раскрадальнікі абкрадвалі партыі тавараў шырспажыву, якія ішлі на сяло, практыкавалі мэтод „зьнікненьня“ вагонаў шляхам загону вагонаў у тупік, непадачы пад выгрузку і да т. п. У 1 квартале бягучага году было ўкрадзена звыш 40 тыс. адпраўленьняў, агульная вага якіх раўняецца 1.538 *т.* Па прыблізных падліках у 2 квартале было каля 17 тыс. выпадкаў пакраж з вагой каля 1050 *т.*

---

[1]) Ленін т. XXII, стар. 459.

Нельга забываць словы Леніна, што „на чыгуначнай справе якая за ўсё, бадай, больш наглядна ўвасабляе гаспадарчыя сувязі створанага буйным капіталізмам організму, гэта барацьба дробнабуржуазнай стыхіі разбэшчанасьці з пролетарскай організаванасьцю выяўляецца асабліва выразна“ [1]).

6. Адным з важнейшых сродкаў умацаваньня пролетарскай абароны социялістычнай уласнасьці і барацьбы з клясавымі ворагамі працоўных (кулацтвам, перакупшчыкамі-спэкулянтамі, буржуазнымі шкоднікамі, зладзеямі, хуліганамі) зьяўляюцца рэволюцыйныя законы пролетарскай дзяржавы.

„Тав. Сталін указаў, што калі буржуазныя законы былі накіраваны на ахову прыватнай уласнасьці, то нашы законы накіраваны на ахову грамадзкай уласнасьці, уласнасьці колгасаў, на ўмацаваньне саміх колгасаў. Рэволюцыйную законнасьць мы выкарыстаем для барацьбы з тымі, хто парушае інтарэсы колгасьніка, хто дапускае самавольства ў адносінах да працоўных сялян, але рэволюцыйная законнасьць накіравана ўсім сваім вастрыём супроць кулакоў, якія насуперак законам савецкай улады будуць прабаваць організаваць свае сілы ў барацьбе супроць колгасаў“ (Кагановіч, прамова на 2 пленуме МК УсеКП(б).

Грамадзкая ўласнасьць ёсьць здабытак усіх працоўных, і ахова яе ад пакраж ёсьць справа ўсіх працоўных. Неабходна рашуча змагацца з дробнабуржуазнай разбэшчанасьцю з дробнаўласьніцкім поглядам на грамадзкую ўласнасьць: „мне-б урваць пабольш, а там хоць трава не расьці“. Ленін указваў, што неабходна ачышчаць „сваё асяродзьдзе ад усіх тых, хто захоўвае спадчыну капіталізму“, „хто захоўвае традыцыі капіталізму“, г. зн. ад гультаёў, дармаедаў, казнакрадаў (цяпер уся зямля, усе фабрыкі, усе чыгункі ёсьць „казна“ савецкай рэспублікі)“ [2]). Ленін падкрэсьліваў, што „неабходна захоўваць сьвята законы і прадпісаньні савецкай улады і сачыць за іх выкананьнем усімі“ [3]).

7. Пастанова ЦВК і СНК СССР ад 7 жніўня 1932 г. і ЦВК і СНК БССР „аб ахове маемасьці дзяржаўных прадпрыемстваў, колгасаў і коопэрацыі і ўмацаваньне грамадзкай (социялістычнай) уласнасьці, „зьяўляецца яркім выражэньнем клясавай прыроды нашых рэволюцыйных

[1]) Ленін, т. XXII, стар. 460—461.
[2]) Ленін, т. XXII, стар. 448.
[3]) Ленін, т. XXIV, стар 434

законаў і мае вялізарнае палітычнае значэньне для соцыялістычнага перавыхаваньня працоўных, для падаўленьня супраціўленьня клясавых ворагаў. Гэта пастанова прыраўнівае па сваім значэньні грузы на чыгуначным і водным транспорце, маемасьць колгасаў і коопэратываў (ураджай на палёх, грамадзкія запасы, жывёла, коопэрацыйныя склады і магазыны і да т. п.) да маемасьці дзяржаўнай. У гэтай пастанове савецкі ўрад агалашае грамадзкую ўласнасьць сьвяшчэннай і недатыкальнай і аб'яўляе ўсякага, хто робіць замах на грамадзкую ўласнасьць, ворагам народу.

Гэта пастанова ўзмацняе судовую рэпрэсію ва ўсіх выпадках замаху на грамадзкую ўласнасьць.

Ворагі народу, якія раскрадаюць народную маемасьць, падглядаюць расстрэлу, а ўся іх маемасьць—конфіскацыі. Пры зьмякчаючых акалічнасьцях расстрэл замяняецца пазбаўленьнем свабоды на тэрмін ня ніжэй 10 гадоў з канфіскацыяй маемасьці. Прымяненьне з боку супроць грамадзкіх кулацка-капіталістычных элемэнтаў пагроз або насільляў, або прымяненьне пагроз і насільляў да колгасьнікаў з мэтай прымусіць іх высьці з колгасу або з мэтай насільственнага разбурэньня колгасу прыраўніваецца савецкай уладай да дзяржаўных злачынстваў і караецца пазбаўленьнем свабоды на тэрмін ад 5 да 10 гадоў з заключэньнем у концэнтрацыйны лягер. Да ўсіх злачынцаў, асуджаных па гэтых справах, амністыя не прымяняецца.

У адносінах да ворага народу няма месца мяккасьці і спагадлівасьці. „Усякая слабасьць, усякія хістаньні, усякая сантымэнтальнічаньне ў гэтых адносінах было-б найвялікшым злачынствам перад соцыялізмам“ (Ленін).

8. Пастанова ўраду вырасла з патрабаваньняў рабочых і колгасьнікаў, самаадданa будуючых соцыялізм. Гэта пастанова мае вялізарнае палітычнае і гаспадарчае значэньне ў справе далейшага ўмацаваньня пролетарскай дыктатуры і выцякае з рашэньняў партыі і апошніх законаў ураду аб усямерным умацаваньні рэволюцыйнай законнасьці, накіраванай сваім вастрыём супроць клясавых ворагаў.

Пастанова мае вялізарнае значэньне ў справе выхаваньня соцыялістычнай працоўнай дысцыпліны, соцыялістычных адносін да працы, да сродкаў вытворчасьці, у справе ліквідацыі перажыткаў капіталізму ў экономіцы і сазнаньні людзей, паднімае на

больш высокую ступень барацьбу за ўнядрэньне ў масы ідэі социялістычнага контролю і ўліку за беражлівыя і ўважлівыя адносіны да грамадзкай уласнасьці. „Вядзі акуратна і добрасумленна,—гаворыць Ленін,—лічэньне грошай, гаспадарнічай экономна, ня гультайнічай, не крадзь, захоўвай самую строгую дысцыпліну ў працы" [1]).

Пастанова ўраду мобілізуе актыўнасьць шырокіх мас рабочых і колгасьнікаў на барацьбу за далейшы ўздым соцыялістычнага будаўніцтва, на барацьбу з клясавым ворагам і яго агентурай—усякага роду опортунізмам, з правым ухілам як галоўнай небясьпекай на даным этапе, з „левым" опортунізмам, які дапамагае праваму ўхілу, які лье ваду на яго млын, які іграе на руку кулацкім элемэнтам, і з прымірэнцтвам.

## ЛІТАРАТУРА ДЛЯ КІРАЎНІКОЎ


Пастанова ЦВК і СНК СССР ад 7 жніўня 1932 г. „Аб ахове маемасьці дзяржаўных прадпрыемстваў колгасаў і коопэрацыі і ўмацаваньні грамадзкай (соцыялістычнай) уласнасьці. („Правда", ад 9 жніўня 1932 г.).

Пастанова ЦВК і СНК БССР ад 13 жніўня 1932 г.

Перадавая „Правды" і „Известий" за 9 жніўня 1932 г.

Перадавая „Зьвязды" ад 14 жніўня 1932 г.

Артыкул т. Іофэ ў „Зьвязьдзе" ад 14 жніўня 1932 г.

Даклад т. Кагановіча на II пленуме МК УсеКП(б), „Правда", ад 6 жніўня 1932 г.

Програма Комуністычнага Інтэрнацыяналу, раз. III, „Конечная цель Коммунистического Интернационала—мировой коммунизм" (са слоў: „Коммунистический строй уничтожает деление...") і раз. IV, § 3, уступленьні і т. д.

Маркс і Энгельс, „Коммунистический манифест", раз. II, „Пролетарии и коммунисты".

Маркс, „Капитал", т. I, раз. 24, § 7.

Ленін, „Очередные задачы советской власти", творы, т. XXII, стар. 442—443, 448—449, 450—451, 458—461.

Ленін, „Как организовать соревнование", творы т. XXII, стар. 158—167.

Ленін, „Письмо к рабочим и крестьянам по поводу победы над Колчаком" твор., т. XXIV, стар. 433—434.

Сталін, „Вопросы ленинизма", стар. 286—287, 453—459, 484, 526—527, выд. 9-е.

Выступленьні т.т. Молатава і Кагановіча на Ўсеукраінскай партконфэрэнцыі.

Пастанова ЦВК і СНК СССР „Аб рэволюцыйнай законнасьці ад 25 чэрвеня 1932 г.

Крыленка. „Революционная законность и наша задача".

Пастанова ЦВК і СНК БССР аб рэволюцыйнай законнасьці".


---

[1]) Ленін, т. XXII, стар. 443.

## РАБОЧЫ МАТЭРЫЯЛ ДЛЯ СЛУХАЧОЎ

1. „Посьпех социялізму нямысьлімы без перамогі пролетарскай сьвядомай дысцыплінаванасьці над стыхійнай дробнабуржуазнай анархіяй“ (Ленін).

Ленін, т. XXII, стар. 163—164

„ „ „ 443

„ „ „ 448

„ „ „ 450—451

„ „ „ 457, 458, 459.

2. „Зьнішчэньне кляс шляхам самай жорсткай клясавай барацьбы пролетарыяту—такая формула Леніна“ (Сталін).

Ленін, т. XVI, стар. 467.

Сталін, „Вопросы ленинизма“, стар. 526—527, выд. 9-е.

„ „ „ „ 401 „ „

3. „Законы пролетарскай дыктатуры накіраваны на ахову грамадзкай уласнасьці.

Маркс і Энгельс, „Коммунистический манифест“.

4. „Грамадзкая ўласнасьць зьяўляецца асновай савецкага ладу; яна сьвяшчэнна і недатыкальна“.

Пастанова ЦВК і СНК СССР ад 7 жніўня 1932 г., пастанова ЦВК і СНК БССР ад 13 жніўня 1932 г.

Перадавая з „Правды“ ад 9 жніўня 1932 г.

Перадавая „Зьвязды“ ад 14 жніўня 1932 г.

5. „Неабходна захоўваць самы строгі рэволюцыйны парадак. Неабходна захоўваць сьвята законы і прадпісаньні савецкай улады і сачыць за выкананьнем усімі“ (Ленін).

Пастанова ЦВК і СНК СССР аб рэволюцыйнай законнасьці ад 25 чэрвеня 1932 г.

Пастанова ЦВК і СНК БССР аб рэволюцыйнай законнасьці.

## 3. КЛЯСЫ І КЛЯСАВАЯ БАРАЦЬБА НА СУЧАСНЫМ ЭТАПЕ І ЗАДАЧЫ ЎМАЦАВАНЬНЯ ПРОЛЕТАРСКАЙ ДЗЯРЖАВЫ

*(Мэтодычны дапаможнік для масавай сеткі партасьветы)*

1. Вучэньне Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна аб узьнікненьні кляс, клясавай барацьбе і дыктатуры пролетарыяту. „Дыктатура пролетарыяту ня ёсьць сканчэньне клясавай барацьбы, а ёсьць прадаўжэньне яе ў новых формах“. Дыктатура пролетарыята як вышэйшая форма клясавай барацьбы пролетарыяту „да канца“ (Ленін), „да зьнішчэньня кляс“. Ленін і Сталін аб трох галоўных задачах, аб „трох асноўных бакох“ дыктатуры пролетарыяту. Ленін аб пяці формах клясавай барацьбы пры дыктатуры пролетарыяту. Асноўныя клясы пераходнага пэрыоду. Дыктатура пролетарыяту „як форма клясавага саюзу паміж пролетарыятам і працоўнымі масамі сялянства для

зьвяржэньня капіталу, для канчатковай перамогі соцыялізму пры ўмове, што кіруючай сілай гэтага саюзу зьяўляецца пролетарыят“ (Сталін). Роля і значэньне партыі пролетарыяту ў клясавай барацьбе. Партыя як накіроўваючая сіла, як асноўная кіруючая сіла дыктатуры пролетарыяту.

2. Соцыялістычны характар Кастрычніцкай рэволюцыі ў Расіі, яе міжнароднае значэньне і яе рухаючыя сілы. Пролетарыят і сялянства, формы іх саюзу на розных этапах нашай рэволюцыі. Тры лёзунгі Леніна па сялянскім пытаньні. Крытыка трацкісцкай тэорыі аб немагчымасьці пабудовы соцыялізму ў аднэй краіне і аб немагчымасьці ўцягненьня асноўных мас сялянства ў справу соцыялістычнага будаўніцтва. Крытыка праваопортуністычнай бухарынскай тэорыі двухклясавага грамадзтва і ўрастаньне кулака ў соцыялізм. Барацьба партыі за ўмацаваньне змычкі пролетарыяту з працоўным сялянствам супроць кулака і нэпмана. Рэконструкцыйны пэрыод і абвастрэньне клясавай барацьбы ў краіне. Узмацненьне супраціўленьня з боку кулака, нэпмана і буржуазнай інтэлігенцыі. Шкодніцтва як форма клясавай барацьбы. Крытыка праваопортуністычнай тэорыі затуханьня клясавай барацьбы.

Год вялікага пералому. Паварот асноўных мас вёскі да соцыялізму. Пераход ад палітыкі абмежаваньня капіталістычных элемэнтаў вёскі і выцясьненьня паасобных атрадаў кулацтва да ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі. Пераход да агульнага разгорнутага наступленьня соцыялізму па ўсім фронце. Шалёнае супраціўленьне ліквідуемага кулацтва і далейшае абвастрэньне клясавай барацьбы ў краіне. Колгаснае сялянства як цэнтральная фігура земляробства і сапраўдная трывалая апора савецкай улады ў вёсцы.

Сусьветна-гістарычныя перамогі соцыялізму ў СССР як рэзультат пасьлядоўнага правядзеньня палітыкі разгорнутага наступленьня соцыялізму па ўсім фронце і барацьбы за ленінскую лінію партыі супроць усіх відаў опортунізму і правага ўхілу як галоўнай небясьпекі.

Гіганцкія соцыяльна-экономічныя зрухі ў нашай краіне. Канчатковы падрыў карэньняў капіталізму ў вёсцы і ліквідацыя ў асноўным паразытычных кляс як важнейшы вынік соцыялістычнага будаўніцтва ў першай пяцігодцы. „Ужо ў першым пяцігодзьдзі ліквідуюцца асновы і крыніцы эксплёатацыі чалавека чалавекам“. Вырашэньне ленінскага пытаньня „хто каго?“ супроць капіталізму

на карысьць соцыялізму поўнасьцю і беспаваротна і ў горадзе і ў вёсцы.

3. Асноўная палітычная задача другой пяцігодкі: „Канчатковая ліквідацыя капіталістычных элемэнтаў і кляс наогул, поўнае зьнішчэньне прычын, якія параджаюць клясавыя розьніцы і эксплёатацыю і перамаганьне перажыткаў капіталізму ў экономіцы і сазнаньні людзей, ператварэньне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва.

Вучэньне марксызму-ленінізму аб сутнасьці соцыялізму як ніжэйшай фазы комунізму. Пры соцыялізьме „сродкі вытворчасьці ўжо вышлі з прыватнай уласнасьці асобных ліц. Сродкі вытворчасьці належаць усяму грамадзтву“ (Ленін). Адрозьненьне ніжэйшай фазы комунізму—соцыялізму—ад яго вышэйшай фазы. Наяўнасьць адбітку старога грамадзтва на соцыялістычным грамадзтве, з нетраў якога яно вышла, ва ўсіх адносінах—экономічных, моральных і разумовых. Прынцып разьмеркаваньня сродкаў спажываньня пры соцыялізьме: „Разьмеркаваньне прадметаў спажываньня па „рабоце“ (а не па патрэбнасьцях)“ (Ленін); „зарплата“ нават пры соцыялізьме павінна выдавацца па працы, а не па патрэбнасьцях“ (Сталін).

4. Клясы і клясавая барацьба на сучасным этапе. „Зьнішчэньне кляс шляхам жорсткай клясавай барацьбы пролетарыяту—такая формула Леніна“ (Сталін). „Сёньня клясавы вораг прыдаўлен, прыглушан, але вастрата клясавай барацьбы астаецца“ (Кагановіч).

Формы клясавай барацьбы на даным этапе.

Шалёнае супраціўленьне ідучых да дна капіталістычных элемэнтаў соцыялістычнаму наступленьню пролетарыяту. „База кулака зьменшылася, але ня зьменшылася ў яго злосьць, ненавісьць і супраціўленьне“ (Кагановіч). Задача бязьлітаснага падаўленьне супраціўленьня зьнішчаемых капіталістычных элемэнтаў.

Задача соцыялістычнага перавыхаваньня колгасьнікаў як своеасаблівая форма клясавай барацьбы. Наяўнасьць у колгасах „індывідуалістычных і нават кулацкіх перажыткаў, якія яшчэ не адпалі, але якія абавязкова павінны адпасьці з цягам часу па меры ўмацаваньня колгасаў, па меры іх машынізацыі“ (Сталін). Наяўнасьць у колгасах элемэнтаў клясавай барацьбы і адрозьненьне іх ад клясавай барацьбы па-за колгасамі. Тав. Сталін аб задачах перапрацоўкі селяніна-колгасьніка, аб выпраўленьні яго

індывідуалістычнай псыхолёгіі і ператварэньні яго ў сапраўднага працаўніка соцыялістычнага грамадзтва. Роля машынізацыі і трактарызацыі ў соцыялістычнай пераробцы колгасных мас. Барацьба за ператварэньне сельскагаспадарчай працы ў галіну індустрыяльнай і стварэньне ў другой пяцігодцы ўмоў для поўнага ўстараненьня супроцьлегласьці паміж горадам і вёскай.

Магутны рост рабочае клясы ў сувязі з гіганцкімі тэмпамі росту соцыялістычнай прамысловасьці. Новыя кадры рабочых, вярбуемыя пераважна з вёскі. Наяўнасьць сярод новых кадраў рабочых адсталых дробна буржуазных настрояў і рвацкіх тэндэнцый. Барацьба за соцыялістычнае перавыхаваньне новых рабочых, за новую соцыялістычную дысцыпліну, барацьба з антыпролетарскімі настроямі, як сваясаблівая форма клясавай барацьбы. Антыленінскі характар настрояў, што перавыхаваньне гэтых кадраў пойдзе „самацёкам“, бяз упорнай барацьбы з боку партыі і рабочай клясы.

Клясавая барацьба на вучастку тавараабароту. Неабходнасьць рашучага выкараненьня прыватнікаў, спэкулянтаў, якія спрабуюць нажыцца за кошт рабочых і сялян на колгасным гандлі. Барацьба супроць буржуазна-нэпманскіх і „лявацкіх“ скажэньняў прынцыпаў савецкага гандлю і гаспадарчага разьліку. Актывізацыя ў радох партыі ў сувязі з абвастрэньнем клясавай барацьбы ў краіне, ухілаў у галіне нацыянальнага пытаньня ў бок вялікадзяржаўнага шовінізму і мясцовага нацыяналізму і неабходнасьць узмацненьня барацьбы з гэтымі ўхіламі.

„Галоўную небясьпеку на даным этапе прадстаўляе вялікадзяржаўны ўхіл, які спрабуе рэвізаваць асновы ленінскай нацыянальнай палітыкі і пад сьцягам інтэрнацыяналізму прыкрывае імкненьне аджываючых кляс панаваўшай раней вялікарускай нацыі зьвярнуць сабе страчаныя прывілеі.

Побач з гэтым актывізуецца ўхіл да мясцовага нацыяналізму, які аслабляе адзінства народаў СССР і іграе на руку інтэрвэнцыі“ (з рэзолюцыі XVI зьезду ЎсеКП(б).

Абвастрэньне супярэчнасьцяй паміж СССР і капіталістычным сьветам. Фронт клясавай барацьбы пролетарыяту супроць капіталізму, які пралягае паміж Савецкім саюзам і яго капіталістычным абкружэньнем; „мы знаходзімся ў капіталістычным абкружэньні, пытаньне „хто каго?“ у міжнародным маштабе яшчэ ня вырашана“ (Кагановіч). Роля фашызму, соцыял-фашызму

і контррэволюцыйнага трацкізму ў падрыхтоўцы інтэрвэнцыі супроць СССР.

Няправільнасьць погляду, што ў нас пэрыод абвастрэньня клясавай барацьбы ўжо прайшоў. Праваопортуністычны характар сьцьвярджэньня аб тым, што пэрыод другой пяцігодкі ёсьць пэрыод мірнага і плаўнага разьвіцьця. Нямінучасьць і ў далейшым абвастрэньня клясавай барацьбы ў паасобных раёнах і на паасобных вучастках социялістычнага будаўніцтва. Нямінучасьць захаваньня ў некаторых выпадках і ўзмацненьня буржуазных уплываў на паасобныя слаі і групы працоўных. Нямінучасьць яшчэ на працягу доўгага часу пранікненьня чужых пролетарыяту клясавых уплываў у асяродзьдзе рабочых і нават у партыю. Задачы павышэньня пільнасьці ў адносінах клясавага ворага і далейшага разгортваньня барацьбы з опортунізмам і асабліва з правым ухілам як галоўнай небясьпекай на даным этапе.

Завастрэньне т. Сталіным пытаньня аб неабходнасьці большай партыйнай пільнасьці, бальшавіцкай ваяўнічасьці і прымірымасьці да ўсякага роду опортунізму і гнілога лібэралізму.

5. Барацьба за ліквідацыю кляс і задача ўмацаваньня пролетарскай дыктатуры. „Вышэйшае разьвіцьцё дзяржаўнай улады ў мэтах падрыхтоўкі ўмоў для адміраньня дзяржаўнай улады—вот марксыцкая формула“ (Сталін).

Задачы пролетарскай дзяржавы ў барацьбе за пабудову бясклясавага грамадзтва. Неабходнасьць бязьлітаснага перасячэньня ўсіх і ўсякіх контррэволюцыйных вылазак супроць социялістычнага наступленьня пролетарыяту. Гіганцкія організацыйныя і выхаваўчыя задачы пролетарскай дзяржавы ў адносінах працоўных гораду і вёскі.

Задачы ўмацаваньня пролетарскай дыктатуры ў сьвятле росту варожасьці і агрэсыўнасьці ў адносінах да СССР з боку імпэрыялістычнага акружэньня.

Неабходнасьць барацьбы з „тэорыямі“ непатрэбнасьці і адміраньня дзяржавы ўжо на даным этапе як з горшым відам опортунізму.

## ЛІТАРАТУРА ДЛЯ КІРАЎНІКОЎ

Ленін, „Государство и революция“, раз. V.
Ленін, „О диктатуре пролетариата“ (тэзісы), т. XXV, стар. 5—12, выд. 2-е.
Сталін, „Аб асновах ленинизма“, раз. V.
Сталін, „К вопросам ленинизма“, раз. IV.

Сталін, „К вопросу о рабоче-крестьянском правительстве".
„ „О трех основных лозунгах партии по крестьянскому вопросу".
„ „О правом уклоне в ВКП(б)".
„ „Год великого перелома".
„ „К вопросам аграрной политики".
„ „Доклад на XVI с'езде", разделы „Трудности роста, борьба классов и наступление социализма по всему фронту".

Молатаў і Куйбышаў, „О второй пятилетке".

Рэзолюцыі XVII Усесаюзнай партконфэрэнцыі і XIV зьезду КП(б)Б.

Кагановіч, „О задачах профсоюзов СССР на данном этапе развития" (прамова на IX зьезьдзе профсаюзаў).

## РАБОЧЫ МАТЭРЫЯЛ ДЛЯ СЛУХАЧОЎ

### ДА ПЕРШАГА РАЗЬДЗЕЛУ

1. Што такое клясы?
Як і калі яны ўзьнікалі?

Ленін, „Великий почин", т. XVI, стар. 249, выд. 1-е.
„ „Вульгарны социализм и народничество", т. V, стар. 201, выд. 2-е.

Энгельс, „Происхождение семьи, частной собственности и государства", стар. 177—179.

Ленін, „О государстве", т. XXIV, стар. 366—368".

2. „Гісторыя ўсяго папярэдняга грамадзтва ёсьць гісторыя барацьбы кляс".

Маркс і Энгельс, „Манифест коммунистической партии", стар. 17.

Маркс, „Нищета философии", стар. 157—158, выд. 3-е.

3. „Марксыст толькі той, хто пашырае прызнаньне барацьбы кляс да прызнаньня дыктатуры пролетарыяту" (Ленін).

Маркс і Энгельс, „Письмо к Вейдемейеру", ад 5 сак. 1852 г. выд. 1931 г.

Ленин, „Государство (1852 г.) и революция", стар. 24—25.

4. „Дыктатура пролетарыяту ня ёсьць скančэньне клясавай барацьбы, а ёсьць прадаўжэньне яе ў новых формах".

Маркс, „Урывак к „Критике готской программы" аб неабходнасьці рэв. дыктатуры пролетарыяту".

Ленін, „Предисловие к речи. Об обмане народа лозунгами свабоды і равенства", т. XVI, стар. 240—241, выд. 1-е.

Ленін, „Речь на II всероссийском с'езде политпрофсоветов", т. XVIII, ч. 1-я, стар. 377, выд. 1-е.

Ленін, „Об обмане народа лозунгами „свободы и равенства", т. XVI, стар. 206, выд. 1-е.

Сталин, „Вопросы ленинизма", стар. 28—30, выд. 9-е.

5. „Партыя патрэбна пролетарыяту для таго, каб заваяваць і ўтрымаць дыктатуру".

Сталін, „Вопросы ленинизма", стар. 70—71, выд. 9.

## ДА ДРУГОГА РАЗЬДЗЕЛУ

1. „Кастрычніцкая рэволюцыя перамагла таму, што яна змагла адабраць у буржуазіі яе сялянскія рэзэрвы, змагла заваяваць гэтыя рэзэрвы на бок пролетарыяту“ (Сталін).

Сталін, „Вопросы ленинизма“, стар. 78—80, выд. 9-е.

2. „Тры лёзунга Леніна па сялянскім пытаньні“.

Сталін; „С политотчета ЦК XIV с'езду“.

3. „Мы можам пабудаваць соцыялізм і мы яго будзем будаваць разам з сялянствам пад кіраўніцтвам рабочай клясы“ (Сталін).

Сталін, „Вопросы ленинизма“, стар. 120—121, выд. 9-е.

4. „Трацкісцкая тэорыя аб немагчымасьці пабудовы соцыялізму ў нашай краіне—буржуазная тэорыя“.

Сталін, „Вопросы ленинизма“, стар. 557—558, выд. 9-е.

5. Зьнішчэньне кляс шляхам самай жорсткай клясавай барацьбы пролетарыяту—такая формула Леніна (Сталін).

Сталін, „Вопросы ленинизма“. „О правом уклоне в ВКП(б)“.

6. „Ня бывала яшчэ ў гісторыі такіх выпадкаў, каб наміраючыя клясы добраахвотна адыходзілі са сцэны“.

Сталін, „Вопросы ленинизма“. „О правом уклоне в ВКП(б)“.

7. „Ад палітыкі абмежаваньня эксплёататарскіх тэндэнцый кулацтва мы перайшлі да палітыкі ліквідацыі кулацтва як клясы“. (Сталін).

Сталін, „Вопросы ленинизма, стар. 456—458, выд. 9-е.

З рэзолюцыі XVI зьезду ЎсеКП(б) па справаздачы ЦК.

8. „Нашы цяжкасьці зьяўляюцца цяжкасьцямі клясавай барацьбы“.

Сталін, „Вопросы ленинизма“, стар. 525—528, выд. 9-е.

9. „У рашучай барацьбе за ленінскую генэральную лінію ЎсеКП(б) забясьпечыла разгром клясавага ворага і перамогу соцыялізму ў СССР“.

З рэзолюцыі XVII партконфэрэнцыі аб другой пяцігодцы.

## ДА ТРЭЦЯГА РАЗЬДЗЕЛУ

1. „Соцыялізм ёсьць зьнішчэньне кляс“ (Ленін). Ленін, т. XVI, стар. 315—352, выд. 1-е.

2. „Другая пяцігодка—пяцігодка пабудовы бясклясавага грамадзтва“.

З рэзолюцыі XVII партконфэрэнцыі па дакладах т.т. Молатава і Куйбышава.

Молатаваў, „Доклад на XVII партконфэрэнцыі“.

3. „Марксызм-ленінізм аб сутнасьці соцыялізму і комунізму“.

Ленін, „Государство и революция“, стар. 61—63, 67—69.

Маркс, „Критика Готской программы“.

## ДА ЧАЦЬВЕРТАГА І ПЯТАГА РАЗЬДЗЕЛАЎ ТЭМЫ

1. „Сёньня клясавы вораг прыдаўлен, прыглушан, але вастрата клясавай барацьбы астаецца“ (Кагановіч).

Ленін, т. XVI, стар. 467.

Кагановіч, „Московские большевики в борьбе за новую пятилетку“. „Доклад на III Московской областной партконференции, стар. 118—121.

2. „Калі ўлада ўмацавалася ў руках рабочай клясы... уся справа залежыць ад пролетарскай дысцыпліны і пролетарскай організаванасьці“ (Ленін).

а) Ленін, т. XVI, стар. 254.

б) „ т. XVI, стар. 251, выд. 1-е.

3. „Нельга... весьці пасьпяховую барацьбу з клясавымі ворагамі, не змагаючыся адначасова з ухіламі ў нашай партыі, не перамагаючы гэтых ухілаў“ (Сталін). „Мы змагаліся і будзем змагацца з правым ухілам, які астаецца галоўнай небясьпекай на даным этапе, бо ён адлюстроўвае кулацкую і дробна-буржуазную стыхію“ (Кагановіч).

а) Сталін, „Вопросы ленинизма“, стар. 556—557.

б) Кагановіч, „Московские большевики в борьбе за победу пятилетки“, стар. 121—122.

4. Мы за адміраньне дзяржавы. І мы разам з тым стаім за ўзмацненьне дыктатуры пролетарыяту“ (Сталін).

Ленін, „Государство и революция“.

Сталін, „Вопросы ленинизма“, стар. 516.

Кагановіч, „О задачах профсоюзов СССР на данном этапе развития“. Прамова на IX зьезьдзе профсаюзаў, стар. 14—15.

5. „Гісторыя паставіла пытаньне або Кастрычніцкая рэвалюцыя і барацьба за социялізм да канца, барацьба з усімі часовымі цяжкасьцямі, якія стаяць на нашым зьвілістым і цяжкім шляху, або назад да капіталізму“ (Кагановіч).

Кагановіч, „О задачах профсоюзов СССР на данном этапе развития“. Прамова на IX с'езде профсоюзов, стар. 29—32.

---